# Паляўнічыя заказьнікі Быхаўшчыны

У Быхаўскім раёне арганізаваны тры паляўнічыя заказьнікі, якія досыць раўнамерна раскіданы па тэрыторыі раёну.

**Дабускі**—у складзе лясных дач: П. Дабускай, Хачынскай на плошчы—2.736 **га.**

**Тэрмін заказу з 1-XII—30 г. па 20-XII—35 г.**

**Немкаўскі**—у паўднёвай частцы Немкаўскай дачы на плошчы 4.195 **га.**

**Тэрмін заказу з 20-XII—30 г. па 20-XII—35 г.**

**Гадылёўскі**—у паўночна-ўсходняй частцы Грудзінаўскай дачы навакол двух Гандылёўскіх вазёр з плошчаю 1.130 **га.**

**Тэрмін заказу з 1-IV—32 да I-IV—37 г.**

Разам пад заказьнікамі знаходзіцца 8061 **га** лясоў дзяржаўнага ляснога фонду, што складае 10,1 проц. ад агульных лясоў дзяржаўнага ляснога фонду раёну.

Дабускі заказьнік утвораны для размнажэньня глушца, цецярука, вавёркі і зайца, якіх у заказьніку ёсьць значная колькасьць:

У Немкаўскім заказьніку да 1931 г. было шмат кабаноў, але пасьля суровай зімы 1931—32 году колькасьць іх паменшылася і зараз там ёсьць толькі 3 штукі, з якіх дзьве сьвіньні з парасятамі.

Узімку 1932 году зьявілася 7 шт. коз, якія далі прыплод. У час абгляду заказьніка (6-VII—32 г. заўважаны сьвежыя сьляды коз і кабаноў на гразі ў кв. № 77 і 78.

Грудзінаўскі заказьнік утворан з мэтаю даць прытулак водаплаваючай дзічы як у час вясельніх і асеньніх пералётаў, так і на працягу лета. Навокал заказьніка вядуцца глушцы, цецярукі, пардва (апошняя ў нязначнай колькасьці), а па краях балота знаходзяць прытулак зайцы.

Усе заказьнікі аслупаваны. На слупох вывешаны табліцы з паказаньнем, што паляваньне забаронена. Пастановаю РВК паведамлены сельсаветы і сялянства аб забароне паляваньня і пасьбы жывёлы ў заказьніках. Трэба сказаць, што гэтая пастанова добра выконваецца насельніцтвам, бо ўвесь час вясны выпадкі пасьбы жывёлы і браканьерства былі адзіночныя.

Лясная варта добрасумленна выконвае ахову заказьнікаў, за што праўленьне райтаварыства мяркуе прэміраваць грашмі вартаўнікоў заказьнікаў.

Вясною 1932 г. у Дабускім заказьніку была пасаджана 1,5 **га** мяцельніку, які зьяўляецца добрым падкормачным смызьняком для зайцоў. Пасевы падкормачных расьлін у заказьніках будуць пашырацца з кожным годам.

На будучы час праўленьне райсаюзу паляўнічых мяркуе пашырыць сетку заказьнікаў па раёне і ахапіць імі, акрамя лясоў дзяржаўнага фонду, і тэрыторыю лясоў мясцовага значэньня.

Пашыраючы сетку заказьнікаў, паляўнічыя Быхаўшчыны тым самым узмацняюць сваю паляўнічую гаспадарку.

# СТАРЫ ПАЛЯЎНІЧЫ І НАШ РАБКОР тав. САПРЫК
## аб часопісе „Паляўнічы Беларусі"

Перш за ўсё трэба сказаць, што наш орган за гады свайго існаваньня шмат паправіўся і стаў акуратней выходзіць з друку. Але мне здаецца, што гэтага яшчэ мала.

Трэба старацца, як мага больш вышэй падняць яго якасьць. А для гэтага наш саюз мае досыць добрыя ўмовы. У яго часткай уваходзяць працаўнікі з вялікай адукацыяй, якія могуць многа дапамагчы. Але гэта яшчэ ня можа зрабіць нашу часопісь цікавым люстрам нашага жыцьця. Каб дабіцца гэтага, трэба, каб яму пасылалі лісты са ўсіх куткоў БССР. Каб кожны раён даваў зьвесткі аб жыцьці і працы яго арганізацыі. Каб на яго старонках адлюстроўваліся як добрыя, так і дрэнныя бакі працы саюзу.

Вось тады ён будзе цікавым. У ім можна будзе відзець дзе і што робіцца.

Далей, трэба помніць, што друк—„гэта самая вострае і самая моцная зброя нашай партыі" (Сталін). А таму ён павінен пашырацца, расьці. Гэты рост павінен ісьці па лініі падвышэньня ролі часопісі, як арганізатара і прапагандыста генэральнай лініі партыі, як арганізатара мас дзеля хутчэйшага правядзеньня ў жыцьцё ўсіх яе рашэньняў і барацьбы з усякімі апуртуністычнымі адхіленьнямі ад генэральнай лініі. Часопісь павінна палітычна і культурна перавыхоўваць масы. Яна павінна больш звярачаць увагі барацьбе з усякімі праявамі кулацкіх настрояў. Яна павінна больш звярачаць увагі і даваць месца пытаньням палітычнай агітацыі вакол бягучых пытаньняў партыі і ўраду і міжнароднага становішча.

Часопісь павінна вучыць, як па-новаму паставіць працу саюзу. У гэтым напрамку неабходна дабіцца паляўнічай пісьменнасьці усіх сяброў саюзу. Для гэтага рэдакцыя павінна сыстэматычна зьмяшчаць артыкулы як з мясцовага жыцьця, так і з другіх краін, даючы ім належную ацэнку.

Часопісь павінна на сваіх старонках вучыць як будаваць паляўнічую гаспадарку, як весьці нясупынную барацьбу з драпежнікамі зьвярамі і „драпежнікамі" людзьмі, пралезшымі ў саюз. А для гэтага трэба ёй на мясцох злажыць адпаведныя ўмовы. Трэба праз часопісь вывучаць характар і асаблівасьці жыцьця кожнага зьвера і кожнай птушкі.

У зьвязку з калектывізацыяй трэба навучыць, як калектыўна весьці паляўнічую гаспадарку і паляваньне. Да гэтага часу ў нас яшчэ вядзецца паляваньне па старой сыстэме. Стараюцца па адным забегчы наперад, за тыдзень раней да тэрміну паляваньня і передушыць дзіч, а калі наступіць тэрмін і прыдуць калектывам, то нічога не знаходзяць. З такімі „драпежнікамі" трэба весьці жорсткую барацьбу, выключаючы іх з радоў саюзу. А гэтаму можа дапамагчы часопісь.

Імкнучыся падвысіць якасьць часопісі, трэба старацца як мага шырэй і больш яе распаўсюдзіць, дабіцца таго, каб на кожнага паляўнічага прыходзіўся адзін экзэмпляр часопісі.

**Я. Сапрык.**

# ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ

ОРГАН КААПЭРАЦЫЙНА-ПРАМЫСЛОВАГА САЮЗУ ПАЛЯЎНІЧЫХ БЕЛКАХОТСАЮЗ.

ЗЬМЕСТ



№ 8

ЖНІВЕНЬ

1932 г.

# СУПРОЦЬ ПАГРОЗЫ НОВАЙ ІМПЭРЫЯЛІСТЫЧНАЙ БОЙНІ

**„Небясьпека новых войн і ваеннай інтэрвэнцыі супроць СССР стала непасрэднай небясьпекай для ўсяго сусьветнага пралетарыяту“**
(З рэзалюцыі XI Пленума ВККІ).

Капіталізм у пошуках выхаду з пятлі эканамічнага крызысу, якая ўсьцяж зацягваецца, упаўвае ў новую паласу войнаў—яшчэ больш грозную чымся бойня 1914, 1920 г. г. Паласа новых войнаў фактычна ўжо пачалася. У Манчжурыі гудуць залпы гармат, самалёты бамбардыруюць гарады і вёскі. У Паўднёвым Кітаі разгортваюцца, ваенныя апэрацыі паміж Гамэнданаўскім войскам і Тыбецкім Далай-Ламам. У Марокко ідзе вайна паміж акупацыўнымі войскамі „левага“ ураду Эррio і паўстанцамі.

Такая абстаноўка сёнешняга дня! Іскры вайсковага пажару загараюцца ў розных канцох капіталістычнага сьвету. Увесь сьвет падобен да бочкі з порахам, якая гатова выбухнуць у любую мінуту.

Ганебная камэдыя разбраеньня, якая цягнулася ў Жэневе больш паўгода, адкладзена надоўга, калі не назаўсёды. Жэнеўскія спрэчкі пацьвердзілі толькі адно—гэта тое, што імпэрыялісты і ня думаюць аб скарачэньні ўзброеньняў, што імпэрыялісты аб'ядналіся ў адзіны фронт супроць савецкай дэлегацыі, якая паставіла катэгарычнае патрабаваньне аб раззбраеньні. Палітыцы міру савецкай дэлегацыі і савецкай краіне імпэрыялісты супроцьпастаўляюць сваю палітыку агрэсій, правакацый, згавораў аб нападзе.

Калі параўнаць падзеі, якія адбыліся за адзін толькі апошні год з усімі антысавецкімі правакацыямі і кампаніямі, якія адбываліся на працягу некалькіх год, дык стане зусім ясна, наколькі ўзмоцнілася небясьпека ўзброенага нападу на Савецкі саюз.

Адна польская газэта нядаўна пісала наступнае: „усе хочуць магчыма хутчэй сагрэць качанеючыя ад эканамічнага застоя рукі на добрым вайсковым агні. Не падлягае сумленьню, што ствараецца канъюнктура цёплай крыві, але тэмпы гэтыя ўсё яшчэ здаюцца надта павольнымі кіраўнікам лёсу сьвету. Зусім ня дзіўна, што яны стараюцца іх паскорыць“.

Крызіс капіталістычнай сыстэмы стварае зачараванае кола. Выхад з гэтага кола капіталісты бачаць толькі ў новых войнах, у новым захопе і перадзеле калёній і паўкалёніі. Плян інтэрвэнцыі супроць СССР—гэта плян ператварэньня краіны саветаў у калёнію галоўнейшых імпэрыялістычных акул.

СССР—адзіная краіна, каторая цьвёрда і пасьлядоўна праводзіць палітыку міра. Аб гэтым сьведчаць шматлікія пасьлядоўныя факты нашай палітыкі.

Заключэньнем двух новых дагавароў аб ненападзеньні з Польшчай і Латвіяй, нягледзячы на працяжнае супраціўленьне кіруючых колаў гэтых дзяржаў, СССР яшчэ раз прадэманстравала сваю пасьлядоўнасьць у палітыцы міру.

Супроць Савецкага саюзу—краіны сацыялістычнага будаўніцтва—напраўлены ўсе сілы імпэрыялізму, бо Савецкі саюз адным сваім існаваньнем прадстаўляе галоўную небясьпеку ў капіталістычным сьвеце, які разьдзіраецца сваімі ўласнымі супярэчнасьцямі.

У сувязі з катастрафічным ростам заняпаду ўсёй капіталістычнай гаспадаркі бесьперапынна расьце фронт рэвалюцыйнай барацьбы пад сьцягам кампартый супроць сыстэмы капіталу, сыстэмы голаду, беспрацоўя і вайны. Кожны дзень тэлеграф прыносіць нам весткі аб усё новых і новых выступленьнях рабочае клясы супроць капіталістаў, супроць капіталістычнай сыстэмы.

Ня гледзячы на тэрор, ня гледзячы на мабілізацыю ўсёй паліцыі і войска супроць першажнівеньскіх дэманстрацый у гэты дзень пралетары капіталістычных гарадоў дэманстравалі сваю жалезную волю і гатоўнасьць уступіць у апошні і рашаючы бой супроць сыстэмы капіталу, у абарону СССР!

Прарываючыся прав кардоны ўзброеных да зубоў паліцэйскіх атрадаў войска і фашысцкіх арганізацый, першажнівеньскія пралетарскія батальёны ў Варшаве, Бэрліне, Парыжы, Лёндане, Нью-Ёрку дэманстравалі пад лёзунгам: „вайну імпэрыялістычную ператворым у вайну грамадзянскую!“

Крызіс капіталістычнай сыстэмы, які з кожным днём паглыбляецца, — цягне за сабой узмацненьне небясьпекі новай вайны яшчэ больш зьверскай, чымся вайна 1914 году. У сыстэме падрыхтоўкі да ўзброенага нападу на краіну саветаў усё больш наглее тэрор супроць рэволюцыйнага руху. Але рэвалюцыйны рух нястрымана расьце, усё вышэй і вышэй падымаецца сьцяг барацьбы супроць сыстэмы капіталізму за пралетарскую дыктатуру, за сусьветны Кастрычнік!

# КРАДЗЁЖ, РАСЬЦЯГВАНЬНЕ Ў НАШЫМ САВЕЦКІМ САЮЗЕ— АКТ КЛЯСАВАЙ БАРАЦЬБЫ І КЛЯСАВАЙ ПОМСТЫ

Пастанова Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў Саюзу ССР аб ахове маемасьці дзяржаўных прадпрыемстваў, калгасаў і каапэрацыі і ўмацаваньні грамадзкай (сацыялістычнай) уласнасьці ад 7 жніўня 1932 т. мае вялізарнае гаспдарча-палітычнае значэньне.

„ЦВК і СНК Саюзу ССР лічыць, — гаворыцца ў пастанове, — што грамадзкая ўласнасьць (дзяржаўная, калгасная, каапэрацыйная) зьяўляецца асновай савецкай будовы, яна сьвяшчэнна і недатыкальна і людзі, якія пакушаюцца на грамадзкую ўласнасьць, павінны быць разглядаемы, як ворагі народа, з прычыны чаго рашучая барацьба з расьцягвацелямі грамадзкае маемасьці зьяўляецца першым абавязкам органаў савецкай улады.

Законы капіталістаў накіраваны на ахову прыватнай уласнасьці, на эксплёатацыю пралетарыяту. Нашы савецкія законы накіравны на ахову грамадзкай уласнасьці. Грамадзкая маемасьць у нас зьяўляецца маемасьцю дзяржавы, — маемасьцю калгасаў, каапэрацыі,—яна сьвяшчэнна і недатыкальна. А таму зусім зразумела, хто расьцягвае яе, утварае крадзёж,—ідзе супроць народа.

Пралетарская рэвалюцыя адабрала сродкі вытворчасьці ў буржуазіі і зрабіла прыватную ўласнасьць уласнасьцю грамадзкай. Але засталіся яшчэ клясавыя ворагі, якія раней карысталіся гэтай уласнасьцю для эксплёатацыі працоўных. Засталіся перажыткі крадзежу. І клясавы вораг пускае ў ход гэты апошні сродак, — крадзёж і расьцягваньне грамадзкай уласнасьці, каб перашкодзіць сацыялістычнаму будаўніцтву. „Багатыя і жулікі,— галоўныя ворагі сацыялізму, гэтых ворагаў трэба ўзяць пад асобы нагляд усяго насельніцтва, з імі трэба распраўляцца пры маленькім парушэньні імі правіл і законаў сацыялістычнай грамады.

Усякая слабасьць, усякае хістаньне, усякае сантымэнтальнічаньне ў гэтай адносіне было-б найвялікшым злачынствам перад сацыялізмам“,—пісаў т. Ленін.

За пятнаццаць год пралетарскай рэвалюцыі грамадзкая ўласнасьць павялічылася, прамысловасьць і сельская гаспадарка вырасла. Куды ні паглядзі,— усюды віднеюцца фабрыкі, заводы, калгасы, саўгасы, склады матар‘ялаў, чыгункі і г. д.,—усё гэта грамадзкая ўласнасьць, дзяржаўная маемасьць, усё гэта заваёвана сваёй крывёй і штыком пралетарыятам у грамадзянскай вайне, у бойцы з клясай эксплёататараў, буржуазіяй. Усё гэта ўласнасьць, утвораная рукамі працоўных—рабочых і калгасьнікаў.

Вось чаму клясавы вораг імкнецца расьцягнуць гэтую ўласнасьць. Вось чаму кулак, гэтая п‘яўка, якая сасала кроў на працягу дзесяткаў год з батрака, бедняка і серадняка, хоча разбурыць гэтую ўласнасьць, расьцягнуць яе. І ён пускае ў справу сваю апошнюю зброю — крадзёж, расьцягваньне. Ён хоча абрабаваць працоўных, жыць за іх кошт. А кулак ня толькі ў вёсцы. Яго агент, падкулачнік часьцяком сядзіць загадчыкам склада, магазына, арганізоўвае крадзёж, і гэтым самым вядзе скрытную бойку супроць савецкай улады.

Самым бязьлітасным чынам трэба весьці барацьбу супроць іх. Працоўныя не дазваляюць рабаваць сябе клясавым ворагам. Мы абаронім сваю ўласнасьць.

Калгасьнікі і рабочыя працуюць з вялікім энтузіязмам у сваім калгасе, на фабрыцы і заводзе, над утварэньнем грамадзкай уласнасьці. Кожны колас, кожны кавалак матэрыі зьяўляецца яго працай, а кулак і яго агент цягнуць са складаў, уначы, калі сьцямнее, едуць на поле, падкрадаюцца да дабра працоўных і расьцягваюць яго. Такім чынам і рабочы і калгасьнік атрымліваюць менш прадуктаў свайго вырабу, чым ім належала. Ня можа быць літасьці да клясавага ворага, да кулака, злодзея.

Тое-ж самае паўтараецца на чыгунцы, на складзе, усюды. Рабочыя працуюць над выкананьнем прамфінпляну, а клясавы вораг, — той-жа злодзей, расьцягвае народнае дабро, растрачвае дзяржаўныя грошы. Ня можа быць літасьці для растратчыка.

Мы павінны самым бязьлітасным чынам змагацца з тым, хто падымае рукі на сацыялістычную, грамадзкую ўласнасьць, змагацца супроць злодзеяў, растратчыкаў, расьцягвацеляў, — супроць клясавых ворагаў.

ЦВК і СНК СССР таксама прыраўнівае да дзяржаўнае маемасьці маемасьць чыгункі, воднага транспарту, калгасаў і саўгасаў (ураджаі, скот) каапэрацыйных арганізацый, словам усю тую маемасьць, якая належыць дзяржаўным, каапэрацыйным і грамадзкім арганізацыям.

За расьцягваньне гэтае маемасьці ЦВК і СНК устанаўлівае для вінаватых па суду кару сьмерцю — расстрэл з канфіскацыяй усяе маемасьці.

Пры зьмякчаючых віну абставінах сьмертная кара можа быць заменена па суду ня менш дзесяцьцю гадамі пазбаўленьня волі з канфіскацыяй маемасьці.

За дапасаваньне гвалту і пагроз калгасьнікам з боку кулацкіх элемэнтаў яны па суду прыгаварваюцца да пазбаўленьня волі і заключэньня ў канцэнтрацыйны лягер тэрмінам ад 5 да 10 год.

Да ўсіх злачынцаў гэтае катэгорыі не дапасоўваюцца ніякія амністыі, каб ня было павадна злодзеям і хуліганам. А то, бывала, гэтыя людзі разьлічвалі: пасяджу годзік, два, а там на волі, а грошыкі ў кішэні.

Мы павінны бязьлітасна расправіцца з злодзеямі таму, што крадзёж і расьцягваньне народнага дабра ў Савецкім Саюзе зьяўляецца актам клясавай барацьбы і клясавай помсты. Іншая справа, калі ў капіталістычных краінах галодны беспрацоўны прымушаны красьці, каб не загінуць з голаду. У нас, у Савецкім Саюзе беспрацоўных няма. Толькі антыграмадзкі элемэнт, злодзей, жулік, хуліган не знаходзяць работы. У нас сыстэматычна паляпшаюцца матар'яльна-бытавыя ўмовы працоўных.

Крадзежам у нас, у рабоча-сялянскай дзяржаве, хочуць займацца тыя, хто ня хоча працаваць, хто хоча жыць за кошт працоўных, кулакі, антыграмадзкія, варожыя нашай справе элемэнты.

Партыйныя арганізацыі павінны растлумачыць усім рабочым, калгасьнікам і працоўным сялянам аднаасобнікам, служачым, каб яны ня толькі змагаліся за выкананьне вытворчых плянаў, але і шчыльна сачылі і ахоўвалі прадукты вытворчасьці ад брыдкіх лап клясавага ворага.

Кожны рабочы, калгасьнік, служачы, спэцыяліст павінны яшчэ больш клапаціцца аб грамадзкай уласнасьці.

# ЛЯСЫ—РАСАДНІКІ ДЗІЧЫ

У жніўні гэтага году выдана пастанова СНК СССР аб супроцьпажарных мерапрыемствах. Гэта пастанова выклікана тым, што ў сувязі з засушлівым надвор'ем учасьціліся выпадкі пажараў лясоў і тарфяных балот. Усім вядома, што прычынамі пажараў зьяўляецца нядбайнае абыходжаньне з агнём і напрыняцьце папераджальных мер, а таксама бязьдзейнасьць адміністрацыйных і гаспадарчых органаў пры ўзьнікненьні пажараў і пры іх ліквідацыі.

Пастанова гэта абавязвае ўсе органы ўлады, якія маюць дачыненьне да лесу, весьці рашучую барацьбу з леснымі пажарамі і, асабліва, прымаць неабходныя папераджальныя меры супроць пажараў.

Ці датычыць гэта пастанова нашай паляўнічай каапэрацыі?

Ставячы такое пытаньне, трэба паставіць другое:

— Ці наносяць страты пажары лясоў і тарфяных балот нашай паляўнічай гаспадарцы?

Вядома, ня знойдзецца такога чалавека, які-б адмаўляў тое, што гэтыя пажары наносяць апусташальны ўшчэрб нашай паляўнічай гаспадарцы.

Лясныя пажары — вораг паляўнічай гаспадаркі. З вясны пры пажарах лясоў гараць выводкі птушак і іх яйкі, выгараюць выводкі зьвяроў—зайцаў, белак, лісаў. У далейшым, ужо ўлетку, полымем захапляецца вялікая плошча леса ці балота. Агонь спадцішка коціцца ўсё далей і далей, захапляе ўсё большую і большую плошчу. Птушкі падымаюцца на крылы, жадаючы знайсьці сабе ратунак ад агня, пападаюць у паласу дыму, які паўзе чор-

нымі воблакамі над лесам, вяртаюцца назад і гінуць у полымі. Тое-ж самае здараецца і са зьверам. Адзін воўк, той знойдзе сабе ратунак, яшчэ заранеей пакіне тую мясцовасьць, дзе чуецца небясьпека.

Але справа ня толькі ў тым, што выгарыць на вядомай плошчы вядомы лік птушак і зьвяроў. Тут трэба падыходзіць яшчэ глыбей.

На будучы год там, дзе быў пажар, застаюцца толькі абгарэлыя засохшыя дрэвы. Пад нагамі трашчыць засохшае гальлё, валяюцца чорныя галавешкі, навокал ні кусточка ні травінкі. Дзе-ж тут будзе гнездавацца птушка, ці зьвярынка. Уцалеўшая летась ад пажара, яна ляціць за некалькі кілёмэтраў адсюль, каб знайсьці сабе месца для гнязда і, калі там ня знойдзе такога, застаецца ялавай. Тое-ж самае здараецца, калі выгарыць зручнае для гнездаваньня і вываду птушак балота. А калі яна дзе-небудзь і зробіць гняздо, выведзе птушанят, дзякуючы таму, што зарасьлі леса выгарылі, гняздо яе сплош і радам знаходзіць які-небудзь бадзячы сабака, які-небудзь пернаты, а то проста і двохногі драпежнік, і вывадка зноў няма.

Мне самому прыходзілася назіраць, як у адным месцы выгарэў бор з пахучымі верасамі ўлет[illegible]. Цецярукі цэлымі вывадкамі, цэлымі стаямі кінуліся ўцякаць з гэтага леса, дзе іх пладзілася раней вельмі шмат. Яны ляцелі, куды папала, падалі ў воблакі дыму, бяспомацна кружыліся там і варочаліся назад, супроць ветра, якраз туды, дзе быў пажар, а там бяспомацна гінулі, падалі з абгарэлымі крыламі. У будучым годзе, там ня было ніводнага вывадка цецярукоў.

Прыводзячы гэтыя факты, мы хочам паказаць паляўнічаму, што пажары лясоў і тарфяных балот не павінны не крануць яго інтарэсы. Кожны паляўнічы павінен ня толькі сам ніколі ня кідаць не затушанага кастра ў поле, у лесе, у балоце, або не затушанай цыгаркі ці сярніка, а наадварот, павінен вучыць другіх не рабіць гэтага, павінен быць актыўным змагаром з лясными пажарамі. Лясная гаспадарка шчыльна зьвязана з паляўнічай! Паляўнічая гаспадарка ня можа існаваць без лясной.

Паляўнічы! Калі ў цябе стрэльба пістаноўка, кожны раз пасьля стрэлу ў лесе і сухім балоце затушы пакульле, якое загарэлася ад стрэлу ў стрэльбе. Бо калі зьменшыцца лясных і балотных пажараў, павялічыцца прадукцыйнасьць паляўнічай гаспадаркі.

**Лесавік.**



Арцель рыбакоў, арганізаваная пры рыб[illegible]ксаюзе с. Богана (ЦЧО) на лоўлі рыбы.

# Ад тэрмінаў паляваньня раба ў вачох

Ужо колькі раз гаварылася і на сходах паляўнічых, і на розных паляўнічых зьездах і ў самым паляўнічым друку, што тэрміны паляваньня, як галоўны ў гэтым момант, рэгулятар адстрэлу дзічы, у сувязі з памяншэньнем яе колькасьці, павінны быць цьвёрдымі і адначасна разумнымі, мэтавгоднымі і карыснымі як для выращэньня тых задач, якія зараз стаяць перад паляўнічай каапэрацыяй, а таксама і для самаго паляўнічага, для паляўнічай гаспадаркі. Тэрміны паляваньня павінны быць устаноўлены такім чынам, каб кожны год прымаліся пад увагу тыя мэтэоролёгічныя ўмовы, якія, у канечным выніку, штогод маюць уплыў на колькасьць і якасьць дзічы, на кожны ў асобку від яе. Напрыклад, летась, скажам, вельмі зьменшылася колькасьць цецярукоў, дзякуючы таму, што зімой частка іх загінула ад холаду, голаду, пад сьнегам. Вядома, у такім выпадку, у будучым годзе Белкахотсаюз павінен прыняць пад увагу ўсе гэтыя акалічнасьці і ўзбудзіць адпаведнае хадайніцтва перад адпаведнымі дзяржаўнымі органамі пры ўстанаўленьні тэрміну паляваньня на гэтую дзіч. Вядома, каб ведаць пра такія зьявішчы, як гібель цецярукоў, Белкахотсаюз (уся сыстэма) павінна займацца практычна-вытворчай працай. Устанавіўшы цьвёрды тэрмін паляваньня, трэба абавязкова загадзя давесьці яго да паляўнічых мас, а паляўнічыя ячэйкі, іх упаўнаважаныя, пры прыбліжэньні сэзону паляваньня, праверыць кожнага паляўнічага, апрача дасылкі яму тэрмінаў паляваньня на кожную дзіч, ці добра ён усвоіў гэтыя тэрміны.

Мы знаходзім, што пры правядзеньні прыпіснай сыстэмы паляўнічай гаспадаркі можна дапусьціць нават устанаўленьне тэрмінаў і ў раённым маштабе ў паасобку. Аб гэтым таксама гаварылася ў нашымжа паляўнічым друку.

Наогул, шмат ужо было гаворкі па поваду і навокал тэрмінаў паляваньня. Нават і на апошнім (IX) зьезьдзе ўпаўнаважаных паляўнічай каапэрацыі было аб гэтым пытаньне. Ї зьезд нават вынес пастанову: „Адсутнасьць цьвёрдых тэрмінаў паляваньня, што шкодна адбіваецца на паляўнічай гаспадарцы і на таварнасьці набываемых аб'ектаў паляваньня“. Менавіта, „шкодна адбіваецца на аб'ектах паляваньня“ уся гэтая валынка з тэрмінамі паляваньня. Між тым правілы штогод застаюцца не ўдасканаленымі, зусім ня цьвёрдымі, мэтэоролёгічныя і іншыя ўмовы, якія адбіваюцца на колькасьці і якасьці дзічы, не вывучаюцца і мы штогод робім шкоду паляўнічай гаспадарцы, утвараем нейкі своеасаблівы антаганізм між паляўнічымі і падрываем дысцыпліну.

Зьезд адбыўся 25—26—27 чэрвеня гэтага году, на якім, як ужо вызначалася, падымалася пытаньне аб гэтых самых тэрмінах, а праз месяц новы „трук“, новы скачок з тэрмінамі паляваньня...

IX зьезд вынес пастанову аб адчыненьне паляваньня на балотную і вадаплаваючую дзічыну з 20-га ліпеня. Першага ліпеня ўсе старшыні разьехаліся на месцы і аб'явілі паляўнічым, што паляваньне ў гэтым годзе пачнецца з паказанага дня. Між тым, Белкахотсаюз хадатайнічае перад упоўнаркомам аб адчыненьні паляваньня з 24 чамусьці ліпеня на паказаную дзічыну. Выносіць пастанову і... чамусьці маўчыць. У газэтах, ня ў прыклад мінулых год, ні слова аб гэтым. Аб'яў ніякіх. Да некаторых райтаварыстваў, як відаць, дайшла гэта пастанова, а да некаторых і не. А калі і дайшла, дык усёроўна паляўнічыя ўжо ведаюць, што качак можна страляць з 20 ліпеня са слоў старшынь раённых таварыстваў.

Як ня верыць старшыні? Ї, вядома, паляўнічыя раёнаў, якія, да рэчы, і жывуць пры самых паляўнічых угодзьдзях, 20 ліпеня чуць на зорцы ідуць на балота за качкамі. У прамысловых-жа цэнтрах, у гарадох у гэты час кіпіць работа ў раённых таварыствах па арганізацыі брыгад з паляўнічых па адстрэле качак, якія, бязумоўна, могуць часткова палепшыць рабочае харчаваньне. Брыгады гатовы! Гатова і ўсё да паездкі на качак. Паляўнічыя пасьля працы сьпяшаюцца набіваць патроны, рыхтуюцца, а 23 выяжджаюць. Раньне 24 зьяўляецца для іх загадкай. Там падбітая качка, там і зусім забітая, ужо трохі загнілася, трава павытаптана. Што такое? Сёньня толькі паляваньне адчынена?

Але загадка хутка рашаецца. Мясцовыя паляўнічыя апавядаюць, хто сколькі здабыў качак, апавядаюць аб посьпехах паляваньня. Гарадзкім паляўнічым застаецца толькі страляць шапкі і варочацца дахаты, бо, як вядома, качкі пасьля некалькіх дзён паляваньня, звычайна, улятаюць на азёры, на вялізарныя рэчкі, наогул туды, дзе іх мала могуць турбаваць стрэлы паляўнічых.

У другіх мясцох па расказах паляўнічых (Лагойскі раён) паляўнічыя наогул ня лічацца з тэрмінам паляваньня.

Што гэтаму прычынай? Прычынай гэтаму, як ня цяжка здагадвацца кожнаму, служыць тое, што паляўнічы ня ведае тэрміну паляваньня, сьпяшаецца, каб яго не абстралялі, не пабілі без яго качак і бяжыць на паляваньне за дзень да таго, пакуль адчынена паляваньне. Трэба сказаць, што і ў гэтым ёсьць некаторая частка лёгікі.

Але трэба сказаць і тое, што пара пакласьці канец такім беспарадкам у паляўнічай гаспадарцы.

**С—кі.**

# ЕСЬЦЬ УСЕ МАГЧЫМАСЬЦІ

Нельга сказаць, што крата ў нас у Беларусі мала. Наадварот, усім вядома, што ён усюды ёсьць і асабліва яго шмат у былой Полацкай акрузе. Там крот у вядомай долі зьяўляецца шкоднікам сельскай гаспадаркі, паколькі яго любімыя месцы—сухія сенажаці. Праўда, крот прыносіць і карысьць гэтай-жа гаспадарцы, але мы ў даны час павінны больш лічыцца з яго скуркай. Крот у сучасны момант займае даволі значнае месца сярод нашай экспартнай сыравіны. З прычыны гэтага нашы загатоўчыя арганізацыі і прад'явілі вялізарнейшы попыт на скурку гэтага маленькага, з чорна-сівенькай, мяккай, як атлас, шэрсьцю зьвярка.

Прад'явілі гэты попыт і зрабілі такія ўмовы, каб было карысна і матар'яльна выгадна займацца насельніцтву промыслам адлову крата, каб зацікавіць, як мага больш людзей гэтым промыслам. Напрыклад, былі ўтвораны прэміяльныя фонды прамтавараў. Устаноўлена высокая цана за шкурку крата. Кожны здатчык гэтага зьвярка атрымлівае з любой крамы ў любой арганізацыі на 50 проц. агульнага кошту здаваемых шкурак прамтавараў: абутку, хустак, матэрыі, цукру і г. д. Апрача таго, здатчыкам, якія заключылі кантрактацыйныя дагавары па промыслу крата, прыкладна на 200—300 рублёў, і якія выканалі гэты кантрактацыйны дагавор, выдаецца прэмія апрача платы за шкуркі. Часта гэтыя прэміі сваім коштам перавышаюць кошт зданых шкурак крата.

Усё гэта павінна было стварыць такія ўмовы, якія-б садзейнічалі нарыхтоўкам крата, садзейнічалі выкананьню плянаў загатоўчых арганізацый. Інакш і быць ня можа! Там, дзе гэтыя магчымасьці былі поўнасьцю рэалізаваны загатоўчымі арганізацыямі, дзе гэтыя прамтавары і прэміяльныя фонды правільна выкарыстаны, там пляны па загатоўках пушмехсыравіны выкананы і перавыкананы ва ўсіх кварталах на працягу ўсяго году.

Як-жа абстаіць справа загатовак ва ўсёй Беларусі, у разрэзе кожнай загатоўчай арганізацыі ў паасобку? Зьвернемся да лічбаў. Плян II кварталу 1932 г. загатовак пушмехсыравіны выканан па пушніне—на 26,6 проц., па мехсыравіне—81,2 проц., а разам 43 проц. Па арганізацыях гэтае выкананьне разьмяркоўваецца такім парадкам: Белпушніна выканала плян па пушніне—23,1, па мехсыравіне—45,5, разам 30,4 проц.; Белкахотсаюз па пушніне—28,1, па мехсыравіне—77,0, разам—35,9, Белкаапсаюз па пушніне—28,4, па мехсыравіне—105,4, разам 51,5. Гэта асноўныя загатоўчыя арганізацыі. Трэба сказаць, што выкананьне пляна па пушніне ў II квартале праходзіла выключна за кошт крата. Такім чынам мы бачым, што загатоўкі сарваны сапраўдным чынам. Значыць сарван плян экспарту пушніны ў Беларусі ў II квартале 1932 г.

Што-ж зьяўляецца прычынай зрыву нарыхтовак пры ўсіх тых спрыяючых умовах, якія былі паказаны намі вышэй, якія былі спэцыяльна ўтвораны Наркамзамежгандлем для стымуляваньня пушмехнарыхтовак? Асноўнымі элемэнтамі ў рабоце загатоўчых арганізацый, якія паслужылі зрывам пляну пушмехнарыхтовак у другім квартале зьяўляюцца наступныя. Большасьць раённых нарыхтоўчых арганізацый не пераключыліся на сапраўдныя бальшавіцкія сацыялістычныя мэтады працы, як арганізацыя сацспаборніцтва паміж нарыхтоўшчыкамі, ячэйкамі паляўнічых, камсамолам, піанэрамі і поўнасьцю бязьдзейнічалі, пакладаючыся на самацёк, не праводзілі масавай растлумачальнай работы сярод насельніцтва аб значэньні пушнамехавых нарыхтовак. Зусім ня была ўцягнута ў нарыхтоўкі калгасная сыстэма, аб чым сьведчыць нізкі процант выкананьня калгасамі. Кантрактацыя, як асноўны мэтад забесьпячэньня выкананьня плянаў, праводзілася нездавальняюча, пра што сьведчыць выкананьне па кантрактацыі ўсяго толькі на 41,4 проц. па Беларусі. Ня было наладжана раённымі арганізацыямі кантролю па выкананьню кантрактацыйных дагавароў. Не праводзілася работа ў саміх раённых загатоўчых арганізацыях у гэтай галіне. Была дрэнна наладжана сувязь з камсамолам, піянэратрадамі, школамі моладзі, якія маглі-б адыграць значную ролю ў лове крата і значна павысілі-б пушныя нарыхтоўкі, ня гледзячы на тое, што ЦК ЛКСМБ узяў на сябе абавязак адлавіць у гэтым годзе 1 мільён кратоў, вызначыўшы разьвёрстку для кожнага РК КСМ. Некаторыя раённыя загатоўчыя арганізацыі замест таго, каб стымуляваць нарыхтоўкі прамтаварамі, занялася разбазарваньнем іх (Ушачы, Бялынкавічы). Наглядалася поўная абязьлічка, поўнае разгільдзяйства навокал пушных нарыхтовак, панавала поўная безадказнасьць. Вось гэта і прывяло да таго, што плян па загатоўцы пушніны, у якой значнае месца займае крот (на 59 проц.) сарван, а заданьне па крату выканана ўсяго толькі на 13 проц., якія разьмяркоўваюцца па асобных загатоўчых арганізацыях наступным чынам: Белпушніна—15 проц., Белкахотсаюз—11,6 проц., Белкаапсаюз—13,7 проц. Толькі дрэннай работай, больш нічым нельга апраўдаць зрыў пляну пушмехзагатовак.

Асабліва адсталі ў загатоўках наступныя раёны, якія паказаны ў зьмяшчаемай у гэтым-жа нумары спэцыяльнай пастанове нарады ўпаўнаважаных пры Наркамзамежгандлі.

Вельмі ўдала правялі загатоўкі тыя раённыя арганізацыі, якія сумелі пераключыцца на бальшавіцкія тэмпы работы, сумелі так арганізаваць яе, ліквідаваць абязьлічку, абломаўшчыну, усякую безадказнасьць, што пляны былі ня толькі выкананы, але і перавыкананы.

Гэта раёны: Прапойск, Узьдзенскі, і шмат іншых (глядзі тую-ж пастанову). Можа там лепшыя мэтэоролёгічныя, геаграфічныя і іншыя ўмовы?—скажуць тыя, хто сарваў плян. Нічуць ня бывала! Як мы бачым з сьпісу выканаўшых пляны і атрымаўшых прэміі, зьмешчаным у пастанове нарады пры Наркамзамежгандлі, гэтыя раёны якраз раскіданы па ўсёй тэрыторыі Беларусі—і па больш спрыяючай адлову крата зоне і па менш спрыяючай. Гэта сьцьвярджае яшчэ раз тую думку, што ўся „загвоздка" у рабоце асобных раённых арганізацый, у рабоце асобных працаўнікоў, кіраўнікоў гэтых арганізацый.

Усе сілы на выкананьне і перавыкананьне плянаў пушмехнарыхтовак у III і IV кварталах 1932 года. Прарыў павінен быць ліквідаван. Пляны павінны быць выкананы з навярстаньнем таго, што ганебна было ўпушчана ў першы квартал. За гэта павінны сурова адказваць кіраўнікі тых арганізацый, якія сарвалі плян у II квартале.

**Пушнік.**

# Загад па Кіраўніцтву Ўпаўнаважанага Народнага Камісарыяту замежнага гандлю СССР пры СНК БССР

*29 ліпеня 1932 г.* *гор. Менск.*

§ 1.

Плян II кварталу 1932 году па нарыхтоўках выканан усяго па БССР на 43 проц.

Такое ганебнае выкананьне пляну зьяўляецца недаацэнкай большасьцю загатоўчых арганізацый важнасьці экспарту, ня гледзячы на цэлы рад канкрэтных дырэктыў партыі і ўраду аб разгортваньні нарыхтовак гэтага віду экспарту да максымальных разьмераў.

Таксама ня была разгорнута шырокая грамадзкая думка вакол гэтага віду нарыхтовак і не ўнядраліся сацыялістычныя мэтады работы—сацспаборніцтва і ўдарніцтва.

Побач з недавыкананьнем пляну II кварталу рад раённых нарыхтоўчых арганізацый, якія дзякуючы правядзеньню шырокай масавай растлумачальнай працы, бальшавіцкай барацьбе за выкананьне экспартнага пляну дабіліся выкананьня і перавыкананьня сваіх плянаў па пушмехсыравіне, за што пералічаныя ніжэй арганізацыі загадваю прэміраваць:

1. Прапойскую раённую экспартную нараду за перавыкананьне пляну II кварталу па пухмехсыравіне па ўсім раёне на 156,1 проц. у суме 600 руб.

**2. Па сыстэме Белпушніны:**

а) Вузьдзенскі пункт, выканаўшы на 146,9 проц. у суме 250 р.
б) Прапойскі " " " 177 " " 200 р.
в) Гомельскі " " " 127,5 " " 300 р.

**3. Па сыстэме Белкахотсаюзу:**

а) Тураўскае райахот. т-ва выкан. на 186,1 проц. у суме 200 р.
б) Прапойскае " " " " 192,3 " " 250 р.
в) Глускае " " " " 130,3 " " 300 р.
г) Лоеўскае " " " " 125,7 " 200 р.

**4. Па сыстэме Белкаапсаюзу:**

а) Асіпавіцкі райзаг. выканаўш. на 149,5 проц. у суме 150 р.
б) Пухавіцкі " " . 189,3 " " 250 р.
в) Бешанковіцкі " " " 138,5 " " 200 р.
г) Чэрвеньскі " " " 123 " " 200 р.

5. Прэміраваць за павышэньне якасных паказчыкаў, што выявіліся ў правільнай кансэрвіроўцы, сушцы, хаваньні, упакоўцы, адгрузцы і зьніжэньні браку наступныя арганізацыі:

1) Пухавіцкую раённую экспартную нараду ў суме 400 руб.

2) Талачынскі пункт Белпушніны, выканаўшы свой плян на 111,6 проц.—350 руб.

3) Койданаўскае райтав-ва паляўнічых, выканаўшае свой плян на 98,3 проц.—250 руб.

4) Кармянскі райзаг, выканаўшы свой плян на 89,1 проц.—200 руб.

5) Полацкага райасьвета т. **Іванову** прэміраваць у суме 100 руб. за правядзеньне энэргічнай работы па мабілізацыі школьнай арганізацыі раёну па здабычы і здачы крата, што дало выкананьне кантрактацыйных дагавароў са школамі.

Прэміі выдаць прамтаварамі і грашыма.

§ 2.

Пэрсанальнае разьмеркаваньне вызначаных прэмій паміж асобнымі працаўнікамі вышэйпаказаных арганізацый даручаецца рэспубліканскім нарыхтоўчым арганізацыям сумесна з раённымі экспартнымі нарадамі.

§ 3.

Адначасова адзначаю зусім ганебнае выкананьне пляну II кварталу 1932 году ніжэйпералічанымі раёнамі, якія зьяўляюцца зрыўшчыкамі пляну нарыхтовак пушмехсыравіны:

| | | |
|---|---|---|
| Дубровенскі | 11,1 | проц. |
| Лагойскі | 12,5 | " |
| Клічаўскі | 13,1 | " |
| Барысаўскі | 15,1 | " |
| Клімавіцкі | 16,3 | " |
| Плешчаніцкі | 20,4 | " |
| Капыльскі | 23,4 | " |
| Парыцкі | 23,6 | " |
| Старобінскі | 23,6 | " |
| Лельчыцкі | 24,5 | " |
| Сіроцінскі | 24,6 | " |
| Каралінскі | 25,1 | " |
| Чашніцкі | 26,3 | " |
| Полацкі | 27,7 | " |
| Шклоўскі | 28,6 | " |
| Сураскі | 29,2 | " |
| Чавускі | 29,3 | " |

Зварачаючы ўвагу старшынь раённых экспартных нарад і раённых нарыхтоўчых арганізацый, ня выканаўшых пляны II кварталу, прашу прыняць канкрэтныя захады па ліквідацыі прарыву ў пляне пушнамехнарыхтовак II кварталу на працягу III кварталу, адначасова забясьпечыўшы поўнае выкананьне пляну III кварталу.

Вык. аб. Упаўн. НКЗГ па БССР
**Скакоўскі.**

# Аб выніках выкананьня II-га кварталу 1932 г. і задачы III і IV кварталаў па пушна-мехавых нарыхтоўках

## Пастанова пашыранай нарады пры ўпаўнаважаным Наркамзамежнага гандлю пры СНК БССР па дакладу Ўпаўнаважанага Наркамзамежгандлю тав. Скакоўскага і па садакладах прадстаўнікоў РЭН Быхаўскага і Дубровенскага раёнаў

1. Плян II кварталу 1932 г. нарыхтовак пушнамехсыравіны выканан па пушніне—26,6 проц., мехсыравіне—81,2 проц., разам 43 проц.

У тым ліку па арганізацыях:

| | Пушніна ў проц. | Мехсыравіна у проц. | Разам у проц. |
|---|---|---|---|
| Белпушніна | 23,1 | 45,5 | 30,4 |
| Белкахотсаюз | 28,1 | 77,0 | 35,9 |
| Белкаапсаюз | 28,4 | 105,4 | 51,5 |
| Белсаюзскур | — | 120,1 | 120,1 |

Адзначаныя вышэй вынікі па выкананьні пляну сьведчаць аб поўным зрыве нарыхтовак гэтага віду экспарту.

2. Асноўнымі прычынамі зрыву невыкананьня пляну зьяўляюцца наступныя:

а) Большасьць раённых нарыхтоўчых арганізацый не пераключыліся на сапраўдныя бальшавіцкія, сацыялістычныя мэтады працы, як арганізацыя сацспаборніцтва паміж нарыхтоўшчыкамі калгасамі, ячэйкамі паляўнічых, камсамолам, піянэрамі і поўнасьцю бязьдзейнічалі, спадзяючыся на самацёк, не праводзілі масавай растлумачальнай працы сярод насельніцтва аб значэньньні пушнамехавых нарыхтовак.

б) У справу пушнамехавых нарыхтовак ня ўцягнута калгасная сыстэма, аб чым сьведчыць нізкае выкананьне пляну па калгасах (усяго на 2 проц.).

в) Кантрактацыя, як асноўны мэтад у забясьпечаньні выкананьня пляну, праводзілася нездавальняюча, пра што сьведчыць выкананьне пляну кантрактацыі па БССР па веснавых відах пушмехсыравіны ўсяго на 41,4 проц.

У тым ліку па арганізацыях: Белпушніне—81,6 проц., Белкахотсаюзу—18 проц., Белкаапсаюзу—18,2 проц.

г) Раённыя нарыхтоўчыя арганізацыі не наладзілі сталага кантролю за выкананьнем дагавароў па кантрактацыі, адсюль ганебныя вынікі паступленьня пушмехсыравіны па дагаварох (усяго на 15 проц.).

д) Большасьць раённых экспартных нарад ня цікавіліся пушнамехавымі нарыхтоўкамі, як асноўным відам экспарту, не правяралася работа нарыхтоўчых арганізацый, аб чым сьведчыць рад выступленьняў працаўнікоў з месц і абсьледваньне, зробленае прадстаўніком Упаўнаркамзамежгандлю на мясцох.

е) Раённыя нарыхтоўчыя арганізацыі недастаткова наладзілі сувязь на мясцох і з камсамольскімі, і піянэрскімі арганізацыямі і школамі, якія могуць адыграць рашаючую ролю ў здабычы і здачы крата і ня гледзячы на тое, што ЦК ЛКСМБ узяў на сябе абавязак адлавіць у 1932 г. адзін мільён кратоў сіламі арганізаванай моладзі, вызначыўшы кантрольныя лічбы кожнаму РК КСМ і інш. мерапрыемствы і да гэтага часу няма ніякага зруху.

ж) Ня гледзячы на тое, што асноўным відам нарыхтовак у БССР зьяўляецца крот, удзельная вага якога ў агульнай суме II кварталу складае 56 проц., выкананьне пляну па крату роўна 13 проц., а ў разрэзе нарыхтоўчых арганізацый: у Белпушніне—15 проц. Белкахотсаюзе—11,6 проц., Белкаапсаюзе—13,7 проц.

з) Ня гледзячы на дырэктывы партыі і ўрадавых органаў аб застаўленьні атаварваньня здатчыкаў пушмехсыравіны, усё-ж наглядаюцца скажэньні іх на мясцох, як-та: разбраніраваньне (Ушачы, Бялынічы і інш.), а таксама няправільнае выдаткаваньне прамфонду, асабліва па сыстэме Белкаапсаюзу.

і) Нарада адзначае зусім ганебнае выкананьне пляну II кварталу наступнымі раёнамі па пушмехсыравіне:

| | | |
|---|---|---|
| Дубровенскім | 11,1 | проц. |
| Лагойскім | 12,5 | „ |
| Клічаўскім | 13,1 | „ |
| Барысаўскім | 15,2 | „ |
| Клімавіцкім | 16,3 | „ |
| Плешчаніцкім | 20,4 | „ |
| Капыльскім | 23,4 | „ |
| Парыцкім | 23,6 | „ |
| Старобінскім | 23,6 | „ |
| Лельчыцкім | 24,5 | „ |
| Сіроцінскім | 24,6 | „ |
| Каралінскім | 25,1 | „ |
| Чашніцкім | 26,3 | „ |
| Полацкім | 27,7 | „ |
| Шклоўскім | 28,6 | „ |
| Сураскім | 29,2 | „ |
| Чавускім | 29,3 | „ |

Гэтыя раёны зьяўляюцца зрыўшчыкамі ў выкананьні ўсяго пляну па БССР за II квартал 1932 г.

Разам з гэтым, нарада са здавальненьнем адзначае наступныя раёны і нарыхтоўчыя арганізацыі, якія дзякуючы правядзеньню шырокай масавай растлумачальнай працы і бальшавіцкай барацьбы ў выкананьні экспартнага пляну, дабіліся наступных вынікаў па пушмехсыравіне:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Прапойскі раён па ўсіх нарыхтоўчых арганізацыях | | 156,1 | проц. |
| Узьдзенскі пункт | Белпушніны | 146,9 | „ |
| Прапойскі „ | „ | 177,1 | „ |
| Гомельскі „ | „ | 127,5 | „ |
| Талачынскі „ | „ | 111,6 | „ |
| Тураўскі | райсаюз паляўнічых | 186,1 | „ |
| Прапойскі „ | „ | 192,3 | „ |
| Глускі „ | „ | 130,8 | „ |
| Лоеўскі „ | „ | 124,7 | „ |
| Асіпавіцкі | райзаг | 149,5 | „ |
| Пухавіцкі „ | | 189,3 | „ |
| Бешанковіцкі „ | | 138,5 | „ |
| Чэрвеньскі „ | | 123 | „ |

А таксама нарада са здавальненьнем адзначае, што па якасных паказчыках пушна-мехавой прадукцыі наперадзе ідуць Пухавіцкі раён у цэлым, Талачынскі пункт Белпушніны, Койданаўскае таварыства паляўнічых і Кармянскі райзаг (па правільнай зьёмцы, кансэрвіроўцы, сушцы, хаваньні, упакоўцы і адпраўцы сыравіны).

к) Адзначыць недастатковасьць дыфэрэнцыяванага апарацыйнага кіраўніцтва з боку цэнтральнага нар. арг. раёнамі і слабы жывы інструктаж.

л) Адзначыць, што з боку ўпаўнаркамзамежгандлю пры СНК БССР ня было прынята дастатковых мер па ажыцьцяўленьні работы РЭН.

м) Адзначыць, што з боку раённых нарыхтоўчых арганізацый недастаткова прымаюцца меры па палепшаньні якаснага выхаду пушна-мехавой прадукцыі, як-та: правільнасьці зьёмкі, кансэрвіроўкі, хаваньня, сушкі, упакоўкі і адгрузкі, адсюль зусім нізкі выхад прадукцыі па якасьці і вялікі процант браку.

н) Ня гледзячы на тое, што ёсьць суровыя дырэктывы аб снабжэньні паляўнікоў, заключыўшых дагавары на контрактацыю з іншымі нарыхтоўчымі арганізацыямі, аднолькава як з сыстэмай Белкахотсаюзу паляўнічымі прыладамі, наглядаецца рад выпадкаў з боку райсаюзу паляўнічых скажэньня гэтых дырэктыў і нявыдача ахотбоеприладаў паляўнічым, заключыўшым дагавары з пунктамі Белпушніны і райзагамі.

Выходзячы з гэтага нарада пастанаўляе:

1. Нарыхтоўчым арганізацыям поўнасьцю забясьпечыць выкананьне пляну нарыхтовак пушмехсыравіны III-га кварталу і недавыкананьня II-га кварталу, для чаго правесьці наступныя мерапрыемствы:

2. Раённым нарыхтоўчым арганізацыям зьвярнуць асаблівую ўвагу на нарыхтоўку пушна-мехсыравіны калгасамі, наладзіўшы штодзенную сувязь з райкалгассаюзамі, перабудаваўшы працу сярод калгасаў так, каб контрактацыйныя дагавары заключаліся ня толькі з калгасьнікамі, але і з праўленьнямі калгасаў, вылучаючы на гэтую працу з боку праўленьняў калгасаў упаўнаважаных, якія-б цалкам адказвалі за выкананьне контрактацыйных дагавароў. Нарыхтоўчым арганізацыям зараз-жа правесьці растлумачальную работу сярод масы калгасьнікаў аб значэньні пушнамехавых нарыхтавак, наладзіўшы з імі жывы інструктаж аб спосабах здабычы зьвера, зьёмкі скуры, кансэрвіроўцы, выдачы авансаў па дагаварох і інш.

3. Нарыхтоўчым арганізацыям перабудаваць сваю працу, пераключыўшыся на сапраўдныя бальшавіцкія мэтады, арганізуючы сацспаборніцтва і ўдарніцтва вакол выкананьня і перавыкананьня ў III і IV кварталах пляну па пушнамехавых нарыхтоўках паміж нарыхтоўшчыкамі, калгасамі, ячэйкамі паляўнічых, камсамолам, піянэрамі, школьнікамі і інш.

4. Па лініі раённых экспартных нарад не радзей як 2 разы ў месяц заслухоўваць справаздачы раённых нарыхтоўчых арганізацый аб ходзе выкананьня пушнамехнарыхтовак і дачы канкрэтных указаньняў аб палепшаньні работу той ці іншай арганізацыі, прымаючы рашучыя меры ў адносіне арганізацый, нявыконваючых свой плян.

5. Папярэдзіць як цэнтральныя, так і раённыя нарыхтоўчыя арганізацыі аб тым, што прызначаны прамфонд для стымуляваньня пушна-мехавых нарыхтовак павінен быць выключна скарыстан па прамому прызначэньню і ні ў якім разе не падлягае разбраніраваньню. Абавязаць Белпушніну, Белкахотсаюз, Белкаапсаюз паскорыць адгрузку прамфонду ў раёны.

6. Абавязаць усе раённыя нарыхтоўчыя арганізацыі з 1 жніўня па 15 жніўня вытварыць праверку выкананьня контрактацыйных дагавароў на веснавыя віды пушмехсыравіны і да больш злосных зрыўшчыкаў контрактацыі прыняць меры ўзьдзейнічаньня, а выканаўшых контрактацыйныя дагавары прэміраваць.

7. Цэнтральным і раённым нарыхтоўчым арганізацыям наладзіць сыстэматычную сувязь з друкам, папулярызуючы значэньне пушмехавых нарыхтовак, сыстэматычна асьвятляючы ход выкананьня пляну, мабілізуючы ўвагу вакол выканаўшых, бяручы на буксір адстаючых.

8. Упаўнаважанаму НКЗГ давесьці да ведама ЦК ЛКСМБ аб тым, што ня гледзячы на прынятыя рад мерапрыемстваў з боку ЦК ЛКСМБ па ўключэньні раённых камсамольскіх і піянэрарганізацый у здабычу і здачу крата, да гэтага часу на месцох няма ніякага зруху.

9. Абавязаць раённыя нарыхтоўчыя арганізацыі кожную дэкаду адгружаць усю нарыхтаваную пушмехсыравіну на базу Белпушніны з адпаведнымі спэцыфікацыямі, строга прытрымліваючыся стандарту, не дапускаючы скапленьня на пунктах звыш чым на 200 р., а таксама весьці рашучую барацьбу з асяданьнем пушмехсыравіны шляхам стымуляваньня работы зборачнага апарату.

10. Адзначыць зусім дрэнную пастаноўку апарацыйнага вучоту, асабліва па сыстэме Белкаапсаюзу і абавязаць раённыя нарыхтоўчыя арганізацыі сваячасова даваць дэкадныя зьвесткі па ўстаноўленай форме сваім цэнтрам, а цэнтральным нарыхтоўчым арганізацыям сваячасова прадстаўляць Упаўнаважанаму НКЗГ.

11. Лічыць мэтазгодным арганізацыю штату ўпаўнаважаных у раёне пры РВК па экспарту ў больш буйных раёнах, маючых экспартнае заданьне.

12. Раённым нарыхтоўчым арганізацыям зьвярнуць больш увагі на палепшаньне падбору нізавога нарыхтоўчага апарату і лічыць неабходным арганізацыю ў раёне гурткоў па аўладаньні тэхнікай, аб спосабах здабычы зьвера, яго кансэрвіроўцы, зьёмцы, сушцы, сортнасьці і інш.

13. Загатавіцельным арганізацыям з 1 жніўня 1932 г. пачаць падрыхтоўчую работу да зімовых відаў нарыхтовак пушмехсыравіны, паклаўшы ў аснову загад Упаўнаважанага НКЗГ ад 15-га верасьня 1931 г, па арганізацыі пушмехавога рынку на IV квартал 1931 г. і 32 году. Контрактацыю зімовых відаў пушмехсыравіны пачаць не пазьней 15-га жніўня 1932 году.

# „Паляўнічы Беларусі“ узяў пад кантроль выкананьне сацдагавору паміж Белпушнінай, Белкахотсаюзам і Белкаапсаюзам

**Дагавор на сацспаборніцтва паміж Белкаапсаюзам (Жывуцільсыравіна), Белсаюзам паляўнічых і Белпушнінай на лепшае выкананьне пляну пушмехнарыхтовак ў 1932 г. па наступных паказчыках:**

1. Выканаць і перавыканаць плян нарыхтовак 1932 г., пакваргальна ліквідаваўшы на працягу 3 га кварталу прарывы 1-га паўгодзьдзя.

2. Не пазьней 10 жніўня г. г. скончыць кантрактацыю крата і іншых відаў пушмехсыравіны з такім разьлікам, каб сумай закантрактаванай сыравіны былі цалкам пакрыты гадавыя плянавыя заданьні кожнай нарыхтоўчай сыстэмы і аб выніках паведаміць свае рэспубліканскія цэнтры для прадстаўленьня арбітру не пазьней 15 жніўня г. г.

Адначасова да працягу месяца, г. зн. да 25-га жніўня г. г., правесьці суцэльную праверку выкананьня ўсіх заключаных да гэтага часу кантрактацыйных дагавароў і ўжыць да кожнага няспраўнага кантрактанта дзейныя меры ўплыву.

3. Шляхам штодзеннай масава-растлумачальнай працы сярод насельніцтва і здатчыкаў пушмехсыравіны цалкам зьнішчыць брак.

4. Кожную дэкаду адгружаць усю нарыхтаваную пушмехсыравіну на базу Белпушніны з адпаведнымі спэцыфікацыямі, з вызначэньнем у іх: сортнасьці і колькасьці, строга выконваючы інструкцыю аб упакоўцы і адгрузцы і недапускаючы накапленьня на нізавых пунктах сыравіны звыш 200 руб.



Белдзяржзапаведнік. На здымку ахотавед Саюзахотцэнтру т. Хрыпіна на хатцы баброў.

5. Не пазьней наступнага дня пасьля сканчэньня дэкады прадстаўляць дэкадныя зьвесткі аб ходзе нарыхтовак і кантрактацыі па строга ўстаноўленай форме з тым, каб зводныя зьвесткі па сыстэме ў сэктарыяльным разрэзе прадстаўляліся ўпаўнаважанаму НКЗГандлю не пазьней аднаго тыдня пасьля сканчэньня дэкады.

6. На аснове разгортваньня сацспаборніцтва і ўдарніцтва сярод калгасаў, школ, піянэратрадаў, ячэйкі ЛКСМ і г. д. арганізаваць ня менш 15 лавецкіх брыгад на кожную нарыхтоўчую арганізацыю ў раёне.

7. Спыніць усякія адхіленьні ад скарыстаньня прамфонду не па простаму іх прызначэньню і строга захоўваць устаноўлены процант атаварваньня.

8. Рэспубліканскім нарыхтоўчым арганізацыям адгружаць у нізоўку прамфонд на працягу пяці дзён з дня яго атрыманьня.

9. Ня менш двух раз на месяц праводзіць у раёнах супольны абмен інфармацыямі аб ходзе кантрактацыі, нарыхтоўкі і адгрузкі.

10. Цэнтральным нарыхтоўчым арганізацыям абслужыць свае нарыхтоўчыя сеткі жывым практычным інструктажам з тым, каб інструктар пабываў у кожным раёне ня менш аднаго разу ў месяц.

У якасьці арбітра па гэтым дагаворы вызначаем упаўнаважанага НК замежгандлю, рэдакцыю „Савецкая Беларусь“ і „Паляўнічага Беларусі“.

Белкаапсаюз **Брыкер.**

Белпушніна **Дугін.**

Белсаюз паляўнічых **Сямацкa.**

**Ад рэдакцыі:**

За выкананьне гэтага дагавора павінна біцца кожнае райтаварыства паляўнічых, паляўнічая ячэйка і асобны паляўнічы. Дзеля чаго неабходна гэты дагавор прапрацаваць на агульных сходах паляўнічых ячэек.

# За выкананьне загатоўчых плянаў за 1931 г. і за I—II кварталы 1932 года прэміраваны

## Па лініі Белкахотсаюзу за выкананьне пляну 1931 г.

### Таварыствы:

Рэчыцкае—ц-б. 2-х стволкай у 185 руб., скуранай курткай у 200 руб.

Магілеўскае—бібліятэкай у 200 руб.

Лёзьненскае—ц-б. 2-х стволкай у 185 руб.

Слуцкае—скур. курткай у 200 р., ботамі у 65 р., чахлом да стрэльбы у 35 руб.

Койданаўскае—стрэльбай ц-б. 1 стволкай у 50 р., чахлом у 35 руб., патранташом у 15 руб.

Чашніцкае—стрэльбай ц-б. 1 стволкай у 50 руб., патранташом у 15 руб.

Капыльскае—стрэльбай ц-б. 1 стволкай у 50 р., патранташом у 15 руб.

Гарадокскае—ботамі у 60 руб., чахлом у 35 р., патранташом у 15 руб.

### Ячэйкі:

Дуброўская—стрэльбай ц. боя 1 стволкай у 50 р., касьцюмам у 30 руб.

Бабіцкая—брукамі у 15 руб., бібліятэкай у 30 р., ботамі і бібл. у 90 руб.

Новадворская—пальто, брукамі, бібліят. у 85 р.

Палікарпаўская—ботамі у 60 руб.

Чауская—ботамі у 60 руб.

Пасталоўская—ботамі у 60 руб.

Роўкоўская—ботамі у 60 руб.

Глухаўская—ботамі у 60 руб.

### Аднаасобныя паляўнічыя:

Радчук А.—ботамі у 60 руб.

Чудноўскі І.—патранташом у 15 руб., стрэльбай у 50 руб.

Асіпаў—патранташом у 15 руб., стрэльбай у 50 р.

Плавінскі—патранташом у 15 руб.

Лойка—стрэльбай у 50 руб.

Цяцерын—брукамі, кажухом у 50 руб.

Баравік—стрэльбай у 50 руб.

Паліўкін—стрэльбай у 50 руб.

Вольская—кажухом, брукамі у 50 руб., сьвітэрам у 30 руб.

Грыманус—стрэльбай у 50 руб.

## Прэміяваны ўпаўнаркамзамежгандлем БССР за выкананьне плянаў 1931 году.

### Таварыствы:

Аршанскае—ц-б. 2-х стволкай стрэльбай у 185 р., фраловак 4 у 160 руб., берданам—у 45 руб.

Прапойскае—фраловак 6 у 210 руб.

Касьцюковіцкае—фраловак 6 у 210 руб.

Менскае—ц.-б 2-х стволкай стрэльбай у 185 р. фраловак 2 у 80 руб.

Рэчыцкае—фраловак 4 у 160 руб.

Койданаўскае—ц.-б 2-х ств. стрэльбай у 185 р.

Крупскае—фраловак 4 у 160 руб.

## Прэміяваны Белкахотсаюзам за выкананьне нарыхтоўчых плянаў І-га і ІІ-га кварталаў 1932 году.

Койданаўскае т-ва—ц-б. 2-х стволкай 1 у суме 204 р. загатаўвіцеля Сароку.

Прапойскае т-ва—старшыня—ц-б. 2-х стволкай 1 у суме 204 руб., чахлом у 35 р.

Глускае т-ва—старшыня—ц-б. 2-х стволкай у суме 204 руб.

Лоеўскае тва—ц.-б. 2-х стволкай 1 у суме 204 р.

Магілеўскае т-ва—тав. Кіартанаў—ц-б. 2 х стволкай у суме 204 руб.

Бабруйскае т-ва—старшыня Валько—ц 6. 2-х ств. у суме 204 руб.

Віцебскае т-ва—старшыня Саўчыка—ц.-б 2-х ств. у суме 204 руб.

Менскае т-ва—старшыня т. Вільдфлуш—ц-б. 2-х стволкай у суме 204 руб.

### Ячэйкі:

Сьвіслацкая, Асіпавіцкага раёну старшыня бюро ячэйкі—стрэльбай Іжэўкай у 50 руб., патранташом у 20 руб.

Страшынская, Жлобінскага раёну, старшыня ячэйкі т. Столярава—стрэльбай Іжэўкай у 50 руб., патранташом у 20 руб., раменем у 5 руб.

Лучыцкая, Петрыкаўскага райбюро, адрэзы на касьцюмы 10 мэтраў у 50 руб.

### Аднаасобнікі:

Сазонава В. С. (Менск. Паляўніч. яч. „Дрэвапрацоўнік"—ц.-б. 2-х стволкай у 204 руб., чахлом у 35 руб.

**Усяго выдана 46 прэмій на суму 6.266 руб.**

**Кожны паляўнічы павінен ведаць, што пастанавіў IX Усебеларускі зьезд паляўнічай каапэрацыі**

# Тэзісы рэзалюцыі па дакладу прадстаўніка Саюзкахотцэнтра тав. Шчарбакова

Выслухаўшы даклад прадстаўніка Саюзнага паляўнічага цэнтру т. **Шчарбакова** IX зьезд упаўнаважаных Белкахотсаюзу канстатуе наступнае:

I. Прамыслова-паляўнічая каапэрацыя, пад кіраўніцтвам партыі і ўраду, на падставе дасягненьняў у галіне індустрыялізацыі краіны, калектывізацыі сельскай гаспадаркі, ліквідацыі кулацтва, як клясы на базе суцэльнай калектывізацыі, на аснове праводзеньня генэральнай лініі партыі дабілася за 3 гады пяцігодкі значных посьпехаў:

а) колькасьць членаў узрасла з 770 тысяч да 1.250 тыс. або на 62 проц. і да пачатку 1933 г. павінна быць даведзена да 1.650 тыс., што складае да пяцігадовага пляна 100 проц. супроць 83 проц. у 1931 г.;

б) паявы капітал сыстэмы ўзрос з 5,6 млн. руб. да 20 млн. ууб. Да пачатку 1933 г. вызначана давесьці да 32,2 млн. руб., што складзе да пляну пяцігодкі 96 проц.;

в) у галіне вытворчай дзейнасьці па трусагадоўлі, пачаўшы работу в 1930 г., паляўнічая каапэрацыя забясьпечана пагалоўем трусовага стада ў 300 тыс. галоў, а да пачатку 1933 г. павінна быць павялічаньне трусовага стада да 1.200 тыс. штук, што к пяцігадоваму пляну складзе перавышэньне на 50 проц.;

г) загатоўка пушмехсыравіны павялічылася з 10 млн. руб. да 16,2 млн. руб., а ўдзельная вага сыстэмы на пушным рынку ўзрасла з 17,6 да 32 проц.;

д) таваразварот сыстэмы па снабжэньні паляўнічымі боепрыладамі ўзрос з 10 да 14 млн. руб.— на 40 проц.

II. Аналіз дзейнасьці паляўнічай каапэрацыі за мінулыя 3 гады паказвае наступныя недахопы ў працы:

а) паляўнічая каапэрацыя ня справілася з задачамі першапачатковага паляўнічага ўпарадкаваньня і замацаваньня паляўнічых угодзьдзяў за сабой.

Паставіўшы сабе мэтай правесьці першапачатковае ўпарадкаваньне і замацаваньне да канца пяцігодкі звыш 1 міліярда га паляўнічых угодзьдзяў да канца 1931 г. фактычна іх ажыцьцявіла толькі 241 млн. га. Зрыў работы па паляўнічаму ўпарадкаваньню тлумачыцца гандлярствам сыстэмы і недаацэнкай значэньня вытворчай дзейнасьці па рэканструкцыі паляўнічага промыслу і адсутнічаньнем кадраў спэцыялістаў, недастатковай увагай да справы арганізацыі паляўнічай гаспадаркі з боку мясцовых кіруючых і рэгулюючых арганізацый;

б) паляўнічая каапэрацыя слаба змагалася за ўмацаваньне сваёй базы, за гаспадарчы разьлік, за рэнтабельнасьць усіх гаспадарчых апэрацый, за суровае забесьпячэньне плянавасьці ў рабоце, за рэалізацыю 6 гістарычных паказаньняў т. Сталіна, якія зьяўляюцца ўмовай пасьпяховай работы ў барацьбе за прамфінплян;

в) пры маючыхся дасягненьнях у загатоўках пушмехсыравіны ўсё-ж такі пушмехнарыхтоўчыя пляны „Саюзкахотцэнтра“ за 3 гады першай пяцігодкі сыстэмай выкананы толькі на 80 проц. Да плянаў Наркамснаба і Наркамзамежгандлю—выкананьне складае 93,5 проц.;

г) паколькі паляўнічы промысел складае аснову вытворча-прамысловай паляўнічай каапэрацыі, выяўлены да 4 завяршаючага году пяцігодкі значны прарыў у выкананьні пляна паляўнічабудаўніцтва пацягнуў за сабой недавыкананьне пляна дабычы і загатоўкі пушмехсыравіны і мабілізацыі сродкаў, што ўтварае рэальную пагрозу ў выкананьні пяцігадовага пляну паляўнічай каапэрацыі па асноўных галінах работы;

д) недастаткова зьвярталася ўвагі падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы кадраў, вывучэньню кіруючага актыву і спэцыялістаў, актыву радавых членаў і прасоўваньню іх на кіруючую і адказную работу, асабліва з асяродку моладзі і жанчын, а таксама слаба ўдзялялася ўвага правільнай расстаноўцы сіл працаўнікоў як у вышэйшых, так і ніжэйшых зьвеньнях паляўнічай сыстэмы;

е) ня гледзячы на раней праводзімыя кампаніі па чыстцы апарату паляўнічай сыстэмы ад чужых элемэнтаў, а таксама раду пасьлядоўных паказаньняў „Союзохотцентра“ аб ажыцьцяўленьні гэтай задачы, усё-ж да гэтага часу шмат якія паляўнічыя арганізацыі не прарабілі павіннай работы;

ж) культмасавая работа сярод каапэраванай масы паляўнічага насельніцтва і сыстэматычная растлумачальная работа сярод іх, а таксама сацыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва з уцягненьнем у іх шырокіх мас ажыцьцяўляецца слаба і вынікі зьяўляюцца зусім нездавальняючыя.

III. У адпаведнасьці з дырэктывамі 17 партканфэрэнцыі па складаньні 2-й пяцігодкі, пасьлядоўных рашэньняў партыі і ўраду, а таксама на аснове іх дырэктыў „Союзохотцентру“, перад паляўнічай прамысловай каапэрацыяй стаяць наступныя асноўныя задачы, падлягаючыя канкрэтнаму ажыцьцяўленьню ў 2-й пяцігодцы.

1) Роля паляўнічай каапэрацыі ў народнай гаспадарцы вызначаецца значэньнем яе як арганізатара паляўнічай гаспадаркі, якая зьяўляецца адной з важнейшых крыніц экспартных сыравінных і харчовых рэсурсаў краіны. Таму галоўнейшай задачай паляўнічай каапэрацыі на 2-ую пяцігодку зьяўляецца ажыцьцяўленьне рэканструкцыі паляўнічага промыслу на тэрыторыі паляўнічых угодзьдзяў на аснове самадзейнасьці каапэраванага паляўнічага насельніцтва, прыпіскі паляўнічых угодзьдзяў да сыстэмы, правядзеньня мерапрыемстваў па ахове зьвера і птушкі, на аснове арганізаванай паляўнічай гаспадаркі, тым самым не дапускаючы драпежніцкага зьнішчэньня запасаў пушнога зьвера і птушкі і забясьпечваючы павышэньне прадукцыйнасьці паляўнічых угодзьдзяў.

2) Арганізацыя паляўнічай гаспадаркі на сацыялістычных пачатках.

Шырокае разьвіцьцё мяса-шкурнай трусагадоўлі, з мэтай узмацненьня экспартных сыравінных і харчовых рэсурсаў нашай краіны, павінна забясьпечыць матар'яльнае палепшаньне каапэраванай масы паляўнічага насельніцтва.

3) Снабжэньне паляўнічага насельніцтва паляўнічапрамысловымі боепрыладамі і правядзеньне мерапрыемстваў па пераўзбраеньні прамысловага паляўнічага насельніцтва, шляхам адшуканьня і прыстасаваньня ўдасканаленых спосабаў і сродкаў як індывідуальнага, так і, у асаблівасьці, калектыўна-брыгаднага паляваньня.

4) Забесьпячэньне няўхільнага падвышэньня загатовак пушніны і мехсыравіны, дзічы, мяса дзікіх жывёл і максымальнага разгортваньня загатовак другарадных прадуктаў (лектэхсыравіна, грыбы, арэхі, ягады, жалуды і інш.), дабіваючыся ў гэтых мэтах пашырэньня аб'ектаў загатовак.

5) Вызваленьне з зваротаў сыстэмы дзяржкрэдыту, шляхам забесьпячэньня ўнутры каапэраванага накапленьня.

Нараду з гэтым неабходна дабіцца рэальных вынікаў па зьнішчэньні гаспадарча-адміністрацыйных выдаткаў, даводзячы іх да ўстаноўленых норм.

6) Падрыхтоўка новых кадраў кіруючых работнікаў і спэцыялістаў як вышэйшай, так і сярэдняй кваліфікацыі ў разьмерах, забясьпечваючых усё ўзрастаючыя, у сувязі з расшырэньнем дзейнасьці, патрэбнасьці сыстэмы, а таксама павінен быць узяты рашучы напрамак на высоўваньне нізавога актыву, на ўцягненьне ў работу камсамольцаў і жанчын.

7) Разьвіцьцё і палепшаньне культмасавай работы, практычнае ажыцьцяўленьне сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва з уцягненьнем у іх шырокіх мас паляўнічага насельніцтва, рашучае правядзеньне ў жыцьцё 6 гістарычных умоў т. Сталіна.

IV. У адпаведнасьці з асноўнымі ўстаноўкамі паляўнічага промыслу каапэрацыя ставіць перад сабой наступныя канкрэтныя задачы на 2-е пяцігодзьдзе.

**I. Па паляўнічай прамысловай гаспадарцы.**

1) Правесьці першапачатковае ўпарадкаваньне ва ўсіх замацаваных за паляўнічай каапэрацыяй паляўнічых угодзьдзяў на тэрыторыі—1.700 млн. га.

2) У выніку правядзеньня мерапрыемстваў па падвышэньні якасьці прадукцыі, па ўключэньні ў эксплёатацыю непрамысловых і слабапрамысловых плошчаў, па ўключэньні ў промысел новых відаў, забясьпечыць падвышэньне прадукцыйнасьці паляўнічых угодзьдзяў па пушному зьверу ня менш, як на 60 проц. і давесьці таварны выхад пушніны з 50 да 80 млн. руб.

3) У выніку правядзеньня паляўнічага ўпарадкаваньня, зьнішчэньня пярнатых драпежнікаў, падкладкі падкормкі і інш. спэцыяльных мерапрыемстваў, забясьпечыць павялічэньне дабычы баравой дзічы з 7,2 да 12 млн. штук і балотнай з 13 да 22 млн. штук.

4) Праводзячы работу па разьвіцьці трусагадоўлі па лініі арганізацыі каапэрацыйных гаспадарак, трусагадоўчых фэрм пры сельска-гаспадарчых калгасах, а таксама па лініі арганізацыі гарадзкіх і прыгарадных гаспадарак сярод рабочых і служачых, паляўнічая каапэрацыя ставіць сваёй задачай павялічэньне трусовага стада да канца 1937 г. з 1.200 да 3.250 тыс. штук і таварнага выхада трусовай прадукцыі з 19.850 тыс. руб. да 147 млн. руб.

5) Разьвіцьцё пантавога аленяводзтва мяркуецца выключна па лініі калгаснага сэктара (аленяводныя фэрмы пры калгасах). Уласныя каапэрацыйныя гаспадаркі (калгасы тыпу саўгасаў) вызначаецца ліквідаваць.

Дзейнасьць паляўнічай каапэрацыі па разгортваньні пантавога аленяводзтва павінна ў асноўным заключацца ва ўмацаваньні пантаводнай калектыўнай гаспадаркі, поўнага яе выкарыстаньня і забесьпячэньне павышэньнем таварнага выхаду прадукцыі.

Пры такім напрамку работы паляўнічая каапэрацыя ставіць мэтай павялічэньне пагалоўя пантавых аленят да канца 2-й пяцігодкі з 3 да 8 тыс. штук.

6) Вызначаючы правядзеньне вытворчай дзейнасьці да зьверагадоўлі выключна па лініі арганізацыі зьверагадавальнікаў пры калгасах, паляўнічая каапэрацыя мяркуе ў 2-й пяцігодцы арганізаваць 200 калгасаў-зьверагадавальнікаў і давесьці пагалоўе племяннога стада з 300 да 800 штук.

7) Улічваючы вызначаемае павялічэньне выхаду пушнога зьвера з 50 да 80 млн., а таксама маючы на ўвазе, што паляўнічая каапэрацыя будзе карыстацца пераважным правам у загатоўках пушніны на паляўнічых угодзьдзях, паляўнічая каапэрацыя ставіць сваёй задачай павялічэньне ўдзельнай вагі на пушназагатоўчым рынку з 34 да 90 проц. і па мехсыравіне, пры пявялічэньні загатовак, з 11 да 125 млн. руб. (пры агульным таварным выхадзе мехсыравіны ў 710 млн. руб.) давесьці ўдзельную вагу з 5 да 18 проц.

8) Забясьпечыць павялічэньне загатоўкі дзічы да канца 2-й пяцігодкі з 8,2 да 18 млн. руб. і павысіць удзельную вагу з 65 да 95 проц.

9) Загатоўку мяса дзікіх жывёл павялічыць да 12 тыс. тон на суму 5 млн. руб. Кіруючыся на збор трусовых тушак ад забоя ў разьмеры 75 проц. пры захаваньні ўдзельнай вагі ў разьвіцьці трусагадоўлі ў 12 проц., паляўнічая каапэрацыя мяркуе давесьці загатоўку трусовага мяса да канца 2-й пяцігодкі да 63 тыс. тон на суму 63 млн. руб.

10) У галіне разьвіцьця заводзкай сабакагадоўлі вызначана:

а) утварэньне цэнтралізаванага кіраўніцтва пры Саюзахотцэнтры, а таксама пры рэспубліканскіх, краявых;

б) абласных паляўнічых саюзах, забясьпечваючыя разьвіцьцё заводзкага прамыслова-паляўнічага сабакі;

в) правесьці мерапрыемствы па снабжэньні сыстэмы заводзкім матар'ялам на аснове контрактацыі, а таксама на аснове калектыўнага мэтаду ўтрыманьня прамыслова-паляўнічых сабак;

г) у мэтах [адбору вытворчага матар'ялу прамыслова-паляўнічых сабак утвараць выстаўкі, палявыя спробы ганчакоў, лаек і інш.;

д) забясьпечыць кармавую базу для ўтрыманьня прамыслова-паляўнічых сабак па сыстэме;

е) у сувязі з неабходным разгортваньнем навукова-дасьледчай работы ў галіне заводзкай сабакагадоўлі ў 1932 г. вызначана скліканьне Ўсесаюзнага зьезду для распрацоўкі новых навуковых праблем.

11) Арганізацыйнае будаўніцтва паляўнічай сыстэмы павінна быць у адпаведнасьці з яе прамыслова-вытворчымі заданьнямі і стаячымі перад ёй задачамі. Выходзячы з гэтага, пабудова як вышэйшых, так і ніжэйшых зьвеньняў утвараецца на аснове ўстаноўленых палажэньняў зьездам упаўнаважаных „Союзохотцентра“.

12) Узаемаадносіны з сельска-гаспадарчай калгаснай сыстэмай устанаўляюцца шчыльнейшыя на дагаворных пачатках, рабочая сіла калгасьнікаў для патрэб паляўнічай сыстэмы выкарыстоўваецца ў адпаведнасьці з пастановамі ўраду і на падставе адходніцтва, якое прыстасоўваецца для дзяржорганаў.

13) Прапанаваць уноў абранаму складу праўленьня Белкахотсаюзу прыняць да ведама і кіраўніцтва ўсё зьмешчанае вышэй.

Нараду з гэтым прапанаваць праўленьню Белкахотсаюзу аддрукаваць і спусьціць на месцы асноўныя задачы паляўнічай прамысловай каапэрацыі ў 2-й пяцігодцы з мэтай усваеньня іх нізавой сеткай.

14) Прапанаваць праўленьню Белкахотсаюзу, на аснове паказаньняў „Союзохотцентра", паскорыць прапрацоўку і складаньне 2-й пяцігодкі і спуска яе пэрыфэрыі саюзу паляўнічых.

# Рэзалюцыя па дакладу ЦП Белкахотсаюзу

Заслухаўшы даклад ЦП Белкахотсаюзу аб яго дзейнасьці за час з VIII да IX зьезда ўпаўнаважаных Белкахотсаюзу і выходзячы з чарговых задач рабочае клясы ў сэнсе правядзеньня генэральнай лініі партыі па пабудове сацыялізму праз індустрыялізацыю краіны і перабудову сельскай гаспадаркі на сацыялістычных падставах праз ажыцьцяўленьне задачы суцэльнае калектывізацыі і ліквідацыі кулацтва, як клясы—IX зьезд упаўнаважаных Белкахотсаюзу знаходзіць правадзімую лінію праўленьнем Белкахотсаюзу правільнай і вытвараную працу здавальняючай.

Як дасягненьні ў працы ЦП Белкахотсаюзу зьезд адзначае:

1. Значны ўзрост ахопу каапэрыраваньнем пралетарскай і калгаснай часткі насельніцтва (на 1-X—30 г. налічвалася 24.500 членаў пал. каапэрацыі на 1-I—32 г.—37.900).

2. Ачышчэньне ахотсыстэмы ад клясава-чуждых і варожых элемэнтаў, шляхам праведзенай чысткі складу паляўнічае масы (вычышчана—4.441 чал.) значна ўзмацніла паляўнічую каапэрацыю за лік пралетарскай праслойкі.

3. Зьезд са здавальненьнем адзначае палепшаньне кіруючай ролі ЦП Белкахотсаюзу працаю нізоўкі шляхам шырокага правядзеньня жывога кіраўніцтва і паляпшэньнем якасьці пісьмовага, што значна ўзмацніла працу райтаварыстваў і ўсёй сыстэмы Белкахотсаюзу.

4. Праведзена рэарганізацыя ахотсыстэмы Белкахотсаюзу, у выніку чаго ліквідаваны акруговыя т-вы і арганізаваны раённыя і куставыя. У выніку гэтага апарат нізоўкі значна прыблізіўся да мас.

5. Зьезд упаўнаважаных адзначае значны ўзрост і ўзмацненьне ЦП Белкахотсаюзу і яго нізавой сыстэмы ў сэнсе фінансавага і гаспадарчага становішча, што пацьверджаецца павялічэньнем уласных сродкаў і давядзеньнем усёй ахотсыстэмы ад становішча дыфіцытнасьці да атрыманьня соцнакапленьня.

6. Зьезд адзначае ўзрост снабжэнчаска-бытавой дзейнасьці ЦП Белкахотсаюзу і павялічэньне ягонай ролі ў снабжэньні райтаварыстваў паляўнічымі прыладамі і таварамі.

7. Павялічэньне ўдзельнай вагі сыстэмы Белкахотсаюзу ў выкананьні плянаў улады па нарыхтоўцы пушніны, мехсыравіны і другарадных відаў паляўнічай прадукцыі (лектэхсыр'ё, пух-пяро, грыбы і г. д.).

8. Зьезд канстатуе, што Белкахотсаюз за справаздачны пэрыяд удзяляў значную ўвагу пытаньням павялічэньня фауны паляўнічых угодзьдзяў і разьвіцьця паляўнічай гаспадаркі наогул.

Побач з дасягненьнямі IX зьезд упаўнаважаных адзначае наступныя недахопы ў працы ЦП Белкахотсаюзу:

1. Слабы кантроль з боку ЦП у сэнсе выкананьня райтаварыствамі дырэктыў самаго ЦП і даных абсьледваньня інструктарскім апаратам, што прыводзіла да зрыву асобных галін працы.

2. Недастаткова ўдзялялася ўвага пытаньню падрыхтоўкі кадраў па сыстэме Белкахотсаюзу, што адмоўна адбілася на пасьпяховым разгортваньні ўсіх галін працы ахоткаапэрацыі.

3. Выпадкі педаацэнкі ахотсыстэмы па раёнах з боку асобных савецкіх, партыйных і грамадзкіх арганізацый, што тлумачыцца недастатковым завастрэньнем гэтага пытаньня в боку ЦП Белкахотсаюзу. Зьезд адзначае адсутнасьць у працы Белкахотсаюзу і ягонай сыстэмы сацыялістычных форм і мэтадаў працы, у прыватнасьці—не разгорнута сацспаборніцтва і ўдарніцтва як паміж райтаварыств, так і асобнымі паляўнічымі.

4. Нарыхтоўка пушмехсыравіны і іншых відаў па сыстэме Белкахотсаюзу праходзіць зусім нездавальняюча з прычыны таго, што асобныя райтаварыствы недааценьваюць значаньня гэтай галіны работы, недастаткова мабілізоўваюць увагу шырокіх паляўнічых мас вакол гэтага пытаньня і не пераключылі сваёй працы на сацыялістычныя мэтады ў адпаведнасьці з 6-цю ўмовамі т. Сталіна (пра гэта сьведчыць 55 проц. выкананьня пляну 1931 г.).

5. Неналаджана праца сэктару снабжэньня Белкахотсаюзу ў зьвязку з чым:

а) меліся выпадкі несваячасовай забросკі тавараў нізавым зьвеньням;

б) ня ўлічваецца патрэбнасьць раёнаў у асортымэнтах забрасываемых тавараў і эканоміка апошніх;

в) ня зьнішчана поўнасьцю ўраўнілаўка і адсутнічае дакладны вучот патрэбнасьці на базе рэальных заявак і прамыслова-вытворчых функцый сыстэмы.

6. Недастаткова ўдзялялася сыстэмай Белкахотсаюзу ўвага разьвіцьцю паляўнічай гаспадаркі ў прыватнасьці:

а) да сучаснага моманту не наладжан вучот фауны паляўнічых угодзьдзяў і недастаткова ўлічаны прадукцыйнасьць і эканамічнае становішча паасобных раёнаў, у выніку чаго мелі месца няправільнае разьмеркаваньне нарыхтоўчых заданьняў;

б) не даведзены да шырокіх паляўнічых мас новыя формы і мэтады вядзеньня паляўнічае гаспадаркі (прыпіска ўгодзьдзяў);

в) адсутнасьць цьвёрдых тэрмінаў паляваньня, што шкодна адбіваецца на паляўнічае гаспадарцы і на таварнасьці набываемых аб'ектаў паляваньня;

г) слаба праводзілася праца па мабілізацыі думкі паляўнічых навакол барацьбы з драпежнікамі паляўнічае гаспадаркі і браканьерамі;

д) поўная адсутнасьць працы з боку Белкахотсаюзу і паасобных раёнаў у галіне разьвіцьця кроўнай сабакагадоўлі, у выніку чаго кантыгент каштоўнага матар'яла зьменшыўся.

7. Зьезд лічыць ненармальным, што да сучаснага моманту не распрацаван і недаведзен да ведама зьезду 5-ці гадовы плян разьвіцьця паляўнічае гаспадаркі другой пяцігодкі.

8. Недастаткова праведзена падрыхтоўчая праца па разьвіцьці трусагадоўлі—(адсутнасьць поўнага забесьпячэньня кармамі трусаводных гаспадарак, племянным матар'ялам, кваліфікацыйнай рабсілай і будматар'яламі будаўніцтва).

9. Недастаткова разгорнута культмасавая работа сярод паляўнічых мас і кульгае праца часопісі „Паляўнічы Беларусі" ў сэнсе якаснага яго зьместу і своечасовай рассылкі чытачам.

Выходзячы з адзначаных вышэй дасягненьняў і ўлічваючы недахопы IX зьезд упаўнаважаных прапануе новаму складу праўленьня Белкахотсаюзу ў далейшай сваёй працы кіравацца 6-цю ўмовамі т. Сталіна і рашэньнямі 17-й партканфэрэнцыі УсеКП(б), падпарадкаваўшы ўсю работу сыстэмы Белкахотсаюзу запатрабаваньнем шпаркіх тэмпаў сацыялістычнага будаўніцтва, унядраючы ў работу ахотсыстэмы прамыслова-вытворчы і нарыхтоўчы напрамак.

1) IX зьезд упаўнаважаных даручае паставіць пытаньне перад адпаведнымі дырэктыўнымі органамі наконт удзяленьня Райвыканкомамі і іншымі раённымі арганізацыямі больш увагі ў сэнсе кіраваньня працай раённых таварыств паляўнічых шляхам больш частага заслухоўваньня справаздач аб іх дзейнасьці.

2) Зараз-жа прыступіць да разгортваньня работы па падрыхтоўцы кадраў як вышэйшай, так і сярэдняй кваліфікацыі для сыстэмы паляўнічай кааперацыі ва ўсіх яе галінах і асабліва ў галіне паляўнічае гаспадаркі. Адначасова зьезд зьвяртае ўвагу на неабходнасьць большага скарыстаньня практыкаў з актыву паляўнічых на мясцох і разгортваньню работы па выхаваньні актыву ў сыстэме паляўнічай кааперацыі.

3) Узмацніць кантроль з боку Белкахотсаюзу над выкананьнем нізоўкай сыстэмы дырэктыў ЦП і вынікаў абсьледваньня, як шляхам праверкі на мясцох, гэтак і праз заслухоўваньне справаздач паасобных райтаварыстваў.

4) Тэрмінова разгарнуць працу па складаньні пляну другой 5-цігодкі паляўнічай кааперацыі, з давядзеньнем яго зьместу да шырокіх мас паляўнічых, праз скарыстаньне старонак паляўнічай часопісі і праз выданьне папулярных брашур.

5) Зьезд абавязуе праўленьне Белкахотсаюзу і яго сыстэму ў сваёй далейшай працы сапраўдна ўжываць сацыялістычныя мэтады працы, шырока разгортваючы і сапраўдна ажыцьцяўляючы сацспаборніцтва і ўдарніцтва ва ўсіх галінах працы паміж райтаварыствамі і асобнымі паляўнічымі з вядзеньнем дакладнага вучоту вынікаў.

6) З прычыны таго, што іншыя нарыхтоўчыя органы (Саюзпушніна і др.) займаюцца снабжэньнем здатчыкаў пушніны агне-боя прыладамі самастойна бяз ведама паляўнічай кааперацыі, чым парушаюць існуючае на гэты конт законадаўства і спрыяюць разьвіцьцю браканьерства,—зьезд прапануе Белкахотсаюзу ўвайсьці з хадайніцтвам у СНК з просьбай аб ізьяцьці ў паказаных арганізацый маючыхся ў іх агне-боя прыладаў і перадаць паляўнічай кааперацыі.

7) Зьезд лічыць больш мэтазгодным і карысным сталае знаходжаньне Белкахотсаюзу ў г. Менску, для чаго вылучае тройку ў асобе т. т. Рэдэра, Волдыня і Вільфлуша для ўзьняцьця гэтага пытаньня перад урадам і просіць Саюзахотцэнтр з свайго боку паставіць гэтае пытаньне перад належнымі органамі.

8) Зьезд прапануе Белкахотсаюзу разьвязаць пытаньне на конт пашырэньня і мэханізацыі ружэйнай майстэрні пры Магілеўскім райтаварыстве паляўнічых.

9) Зьезд упаўнаважаных зьвяртае ўвагу Белкахотсаюзу на слабыя тэмпы па кааперыраваньню калгаснай і сялянскай бедната і на неабходнасьць узмацненьня гэтай галіны работы.

10) Выходзячы з дырэктыў улады і рашэньняў 17 партканфэрэнцыі аб падвышэньні якасьці працы па павялічэньні нарыхтовак у сэнсе снабжэньня прамысловасьці і працоўных прадуктамі харчаваньня, зьезд прапануе праўленьню Белкахотсаюзу разгарнуць працу ў напрамку падвышэньня нарыхтовак пушмехсыр'я, мяса дзічы і г. д.

11) Прыняць да рэалізацыі плян нарыхтовак для сыстэмы на 1932 год у суме 308.392 руб., адзначыўшы, што паказаны плян не адбівае сапраўдных магчымасьцяй сыстэмы Белкахотсаюзу.

Зьезд прапануе праўленьням райтаварыстваў на падставе кантрольных лічбаў арганізаваць прапрацоўку на мясцох сустрэчных плянаў, усямерна дамагаючыся падвышэньня ўдзельнай вагі ахотсыстэмы ў пушнарыхтоўках.

12) Канчаткова ліквідаваць ураўнілаўку ў сэнсе снабжэньня таварамі райтаварыстваў, і праводзіць снабжэньне, выходзячы з удзельнай вагі ў нарыхтоўках кожнага паасобна райтаварыства і фактычнага выкананьня пляну.

13) Зьезд прапануе праўленьню Белкахотсаюза перагледзець цэны на тавары ў бок іх зьніжэньня і распрацаваць і ўвесьці ў сыстэму адзіную шкалу нацэнак на прамыслова-вытворчыя і іншыя тавары.

14) У сувязі з пашырэньнем аб'ектаў нарыхтовак па сыстэме ахоткааперацыі і выходзячы з недахопу кваліфікацыйнай сілы па нарыхтоўках, зьезд прапануе Белкахотсаюзу разгарнуць работу па падрыхтоўцы работнікаў для нарыхтоўчай працы ў сыстэме ахоткааперацыі.

15) Зьезд прапануе Белкахотсаюзу ў другой пяцігодцы правесьці рэарганізацыю паляўнічай гаспадаркі на сацыялістычных падставах (спэцыяльнае ахотупарадкаваньне і г. д.).

16) Зьвяртаць максымум увагі відавым устаноўкам паляўнічых угодзьдзяў і асабліва арганізацыі дзічаводных гаспадарак.

17) Райтаварыствам зрабіць рашучы зрух у справе жорсткай плянавай барацьбы з драпежнікамі і браканьерамі ў паляўнічай гаспадарцы.

18) Завесьці дакладны вучот паляўнічае фауны на ўгодзьдзях і падвысіць якаснае становішча заказьнікаў.

19) Зьезд прапануе Белкахотсаюзу дабіцца перад урадавымі органамі своечасовага фінансаваньня паляўнічай гаспадаркі.

20) У мэтах правядзеньня рэканструкцыі паляўнічай гаспадаркі зьезд абавязвае райтаварыствы давесьці адлічэньня на гэту галіну працы да 30 проц. ад прыбыткаў.

21) Праўленьням райтаварыстваў выдзяліць працаўнікоў па паляўнічай гаспадарцы, на якіх ускласьць адказнасьць за становішча яе і выпрацоўку і правядзеньне ў жыцьцё новых форм і мэтадаў вядзеньня паляўнічай гаспадаркі.

22) Праўленьню Белкахотсаюзу прыняць захады да выданьня папулярнага дапаможніка па біолёгіі лясных зьвяроў, птушак і паляўнічазнаўства.

23) Прасіць Акадэмію Навук паскорыць выданьне матар'ялу па арганізацыі паляўнічай гаспадаркі Рэчыцкага палесься.

24) Зьезд упаўнаважаных прапануе ЦП Белкахотсаюзу паскорыць прыняцьце дзяжурнага запаведніка, прыстасаваўшы яго працу да вытворчых задач, зьвязаных з рэканструкцыяй паляўнічай гаспадаркі.

25) Праўленьню Белкахотсаюзу заняцца вылучэньнем эканамічных магчымасьцяй раёнаў.

26) Зьезд прапануе Белкахотсаюзу дабіцца перад урадавымі органамі цьвёрдых тэрмінаў паляваньня.

27) Улічваючы, што разьвіцьцё трусаводзтва павінна стаць дадатковай базай па вырашэньні мясной праблемы ў сэнсе большага забясьпячэньня рабочых прамысловасьці і выходзячы з прапановы ЦК УсеКП(б) і СТО аб кролікаводзтве,—IX зьезд упаўнаважаных прапануе Белкахотсаюзу і райтаварыствам сыстэмы завастрыць увагу на гэту галіну працы, каб у бліжэйшы тэрмін выканаць дырэктыву партыі і ўраду праз разьвіцьцё трусаводзтва пры райтаварыствах, сельячэйках сярод паасобных паляўнічых, даводзячы колькасьць трусаводных гаспадарак да 35 шт., а колькасьць матак да 11.500 шт.

28) Зьезд прапануе скончыць будаўніцтва трусаводных гаспадарак у 1932-33 г. і дабіцца поўнага забесьпячэньня апошніх уласнымі кармамі ў бліжэйшыя гады.

29) У мэтах больш эфэктыўнага разьвіцьця трусаводзтва сканцэнтраваць мэтавыя ўзносы на трусагадоўлю ў Белкахотсаюзе, для чаго прапанаваць райтаварыствам, ня маючым трусаводных гаспадарак у месячны тэрмін унесьці сродкі ў ЦП Белкахотсаюзу.

30) У мэтах разьвіцьця кроўнае сабакагадоўлі арганізаваць пры ЦП Белкахохтаюзу гадавальнік сабак з такім разьлікам, каб прапускная здольнасьць яго была ня менш 60 штук шчанюкоў у год на ўмовах гаспадарчага разьліку.

31) Папоўніць сэктар паляўнічай гаспадаркі пры Белкахотсаюзу сталым кваліфікаваным працаўніком на пасадзе інструктара па сабакагадоўлі і прапанаваць райтаварыствам арганізаваць на мясцох сэкцыі кроўнай сабакагадоўлі.

32) У мэтах барацьбы з выпадкамі спэкуляцыі шчанюкамі з боку паасобных сабаказаводчыкаў-паляўнічых, Белкахотсаюзу і райтаварыствам папулярызаваць і практыкаваць мэтад контрактацыі кроўных шчанюкоў, праводзячы гэту работу праз сэкцыі, кроўнай сабакагадоўлі.

33) Улічваючы значную ўдзельную вагу кроўнай сабакі ў пушназагатоўках, зьезд лічыць неабходным больш папулярызаваць справу кроўнай сабакагадоўлі сярод шырокіх колаў паляўнічых праз скарыстаньне паляўнічага друку („Паляўнічы Беларусі"), шляхам выдзяленьня ў часопісі аддзелу сабакагадоўлі, і прапануе райтаварыствам дапамагаць паляўнічым у справе снабжэньня кроўных сабак кармамі, а таксама дабіцца ад належных органаў водпуска кармоў з цэнтралізаванага фонду.

34) У мэтах папаўненьня зьмяншаючыхся шэрагаў экспэртаў-сабаководаў, арганізаваць пры Белкахотсаюзе інстытут экспэртаў-сабаководаў з ліку асоб, зацьверджаных экспэртамі Саюзахотцэнтру.

35) У мэтах разьвіцьця кроўнасьць сабакагадоўлі, зьезд лічыць неабходным практыкаваць штогодна выстаўкі і палявыя спробы сабак як у рэспубліканскім маштабе, гэтак і па раёнах.

36) IX зьезд упаўнаважаных лічыць неабходным усе рашэньні прынятыя зьездам, зьмясьціць у часопісі „Паляўнічы Беларусі" для азнаямленьня з імі шырокіх паляўнічых мас і працоўных мас насельніцтва.

# Рэзалюцыя па дакладу аб фінансавым становішчы сыстэмы Беларускага прамыслова-каапэрацыйнага саюзу паляўнічых

**На 1-е студзеня 1932 г.**

Заслухаўшы даклад аб фінансавым становішчы сыстэмы паляўнічай каапэрацыі за пэрыяд з 1-I—1929 г. па 1-I—32 г., Зьезд упаўнаважаных X складу канстатуе наступнае:

| | | |
|---|---|---|
| I. Рост валюты балянсу павялічыўся ў | 7 | раз. |
| „ уласных сродак | 10,4 | „ |
| „ паявых узносаў | 4,5 | „ |

Такім чынам належыць прызнаць, што ліквіднасьць балянсу на сучасны момант дастаткова рэальная, спрыяючая. Фінансавае становішча складае моцную базу пераходу сыстэмы паляўнічай каапэрацыі ад гандлёвых функцый да вытворча-нарыхтоўча-збытавых, як-та: у нармальных умовах вытвараць экспартныя нарыхтоўкі пушніны, мехсыравіны, іншыя нарыхтоўкі, а таксама складае нармальныя фінансавыя ўмовы для вядзеньня і трусаводнай гаспадаркі.

Акрамя гэтага зьезд канстатуе, што на палепшаньне фінансавага становішча паляўнічай каапэрацыі спрыялі ўмовы, выкананьне ўрадавых заданьняў па мабілізацыі сродкаў насельніцтва, напрыклад: на 1931 год заданьні вызначаліся ў суме 384.000 р. і выкананы 418.000 руб., што складае—108,8 проц.

II. Побач з дасягненьнямі па ўзмацненьні фінансавага становішча паляўнічай каапэрацыі на 1-е студзеня 1932 г. зьезд упаўнаважаных знаходзіць:

1) У практыцы правядзеньня ў сыстэме паляўнічай каапэрацыі крэдытнай рэформы і гаспадарчага разрахунку не дасягнута здавальняючага кантролю рублём ходу выкананьня плянаў і накапленьняў, што парушае прынцыпы гаспадарчага разрахунку. Не праведзены прынцыпы дагаворных адносін унутры арганізацый сыстэмы, што прывяло да паслабленьня кантролю над пастаўнікамі ў сэнсе якасьці асартымэнта тавараў, тэрмінаў пастаўкі, умоў разьліку.

2) Парушэньне гаспадарчага разрахунку ў арганізацыях сыстэмы абязьлічыла прыбыткі і зваротныя сродкі, прывяло да паслабленьня зацікаўленасьці нізавых зьвеньняў сыстэмы ў фінансавых прыбытках, у выніках сваёй дзейнасьці (зьніжэньне сабекаштоўнасьці накапленьня прыбыткаў).

3) Недастаткова сур'ёзныя адносіны сыстэмы праяўлены да пытаньня ўзаемных разьлікаў, што прывяло да ненармальнага скарыстаньня ўласнай каштоўнасьці, як-та: неперавод у цэнтралізаваны фонд мэтавых узносаў на разьвіцьцё ў сыстэме трусаводнай гаспадаркі, неперавод згодна з запатрабаваньнем статуту 50 проц. адлічэньняў ад паявых узносаў у сыстэму Белкахотсаюзу, не ліквідаваны ўзаемныя разрахункі ўнутры арганізацый сыстэмы і г. д.

III. У галіне становішча вучоту і справаздачнасьці зьезд упаўнаважаных канстатуе, што, нягледзячы на пастанову ЦВК і СНК СССР ад 14-XII—31 г. аб складаньні ўсімі гаспадарчымі арганізацыямі і арганізацыямі аграмаджанага сэктару гадавых грашовых справаздач за 1931 г. да 1-га красавіка 1932 году, многія арганізацыі сыстэмы і да наступнага моманту ня склалі сваіх гадавых справаздач за 1931 г. Разам з гэтым зьезд адзначае, што не наладжан апэратыўны вучот па мабілізацыі сродкаў насельніцтва, адсутнічаюць вытворчыя фінансавыя пляны на 1932 г., у выніку чаго праца праходзіць самацёкам, што цяжка адбіваецца на агульным вучоце ў сыстэме.

IV. На падставе ўсяго выкладзенага зьезд упаўнаважаных IX складу прапануе праўленьню Белкахотсаюзу наступнае:

1) Разгарнуць па сыстэме будаўніцтва трусаводных гаспадарак у поўным аб'ёме намечаным плянамі і зацьверджаным урадавымі органамі на 1932 г. Устанавіць суровы кантроль за пераводам трусаводных гаспадарак на гаспадарчы разьлік. Перавесьці ўсе трусаводныя гаспадаркі на самастойны баланс з вядзеньнем самастойных зваротных сродкаў, для чаго ў самы кароткі тэрмін скласьці цэнтралізаваны фонд, з ліку якога будзе фінансавана трусаводная гаспадарка. Сродкі цэнтралізаванага фонду павінны складаць мэтавыя ўзносы, унесеныя сябрамі саюзу паляўнічых у 1931 і 1932 г. г. і адлічэньні ад прыбыткаў.

2) У самы кароткі тэрмін прыняць самыя суровыя меры, якія могуць поўнасьцю забясьпечыць у арганізацыях сыстэмы крэдытную работу і гаспадарчы разрахунак, для чаго:

а) у парадку пастановы СТО ад 23-VII—1931 г. устанавіць па кожнаму райтаварыству разьмеры ўласных сродкаў;

б) рашучым чынам ліквідаваць узаемныя разрахункі сярод нізавых арганізацый з сыстэмай з такім разьлікам, каб кожнае райтаварыства манэўрыравала выключна сваімі ўласнымі сродкамі ў устаноўленых разьмерах;

в) устанавіць сыстэматычны кантроль за зьніжэньнем сабекаштоўнасьці тавараў, забясьпечаньнем і збытам выдаткаў па ўтрыманьні адміністрацыйна-кіруючага апарату;

г) унядрыць у работу арганізацый сыстэмы пэрсанальную адказнасьць за вучот і справаздачнасьць з тым, каб уся праца праводзілася выключна ў пляновым парадку;

д) праўленьню Белкахотсаюза прыняць належныя захады і забясьпечыць умовы ўкамплектаваньня нізавых зьвеньняў рахункаводным пэрсаналам, шляхам стварэньня пры Белкахотсаюзе кароткатэрміновых курсаў па пытаньнях вучота і справаздачнасьці ахоткаапэрацыі. Для жывога інструктажа па пытаньнях вучота—справаздачнасьці ў нізоўцы сыстэмы выдзяліць з устаноўленага штату бухгальтэрыі аднаго бухгальтара-інструктара.

V. Фінансавае становішча праўленьня Белкахотсаюза на 1-е студзеня 1932 году.

1) Прызнаць, што фінансавае становішча праўленьня Белкахотсаюза за пэрыяд з 1-га студзеня 1929 г. па 1-е студзеня 1932 г. значна палепшылася, а менавіта:

2) Рост валюты балянса ўзрос у 2,2 разы, а ўласных сродак—у 52,9 разы, што дае магчымасьць разгарнуць у поўным аб'ёме ўсе апэрацыі па забесьпячэньні нізавых зьвеньняў сыстэмы агне-боя прыладамі, а таксама правесьці ўсе мерапрыемствы ў галіне перабудовы паляўнічай гаспадаркі.

3) Зацьвердзіць разьмеркаваньне прыбыткаў атрыманых Белкахотсаюзам за пэрыяд 1929-30 і 1931 г. у суме 158.857 руб. 62 к. ў наступным парадку і ў разьмерах:

| | |
|---|---|
| 1. У запасны капітал 10 проц. альбо | 15.886 р. |
| 2. У фонд доўгатэрміновага крэдыту 10 проц. альбо | 15.886 „ |
| 3. У каапэр. і калект. бедн. і батрач. 10 проц. альбо | 15.886 „ |
| 4. У культфонд 20 проц. альбо | 31.771 „ |
| 5. У фонд падрыхтоўкі кадраў 15 проц. альбо | 23.829 „ |
| 6. У фонд прэміяваньня 6 проц. ці | 9.531 „ |
| 7. У асноўны капітал 25 проц. ці | 39.714 „ |
| 8. У кінафонд 2 проц. ці | 3.177 „ |
| 9. Рэзэрв на пакрыцьцё самніцельных даўгоў 2 проц. ці | 3.177 „ 62 к. |
| Разам 100 проц. ці | 158.857 р. 62 к. |

4) Справаздачныя балянсы праўленьня Белкахотсаюза за 1929-30 і 1931 годы ў сумах, згодна прыкладзеных да гэтага табліц.

5) Зацьвердзіць каштарыс па ўтрыманьні апарату праўленьня Белкахотсаюзу на 1932 год у наступных сумах:

| | |
|---|---|
| 1) На ўтрыманьне асабістага складу | 88.350 р. |
| 2) Камандыроўкі і разьезды | 14.475 „ |
| 3) Канцвыдаткі | 11.650 „ |
| 4) На гаспадарчыя выдаткі | 5.950 „ |
| 5) На іншыя выдаткі | 26.340 „ |
| Разам | 146.775 р. |

Зацьвердзіць умоўна і прапанаваць рэўкамісіі перагледзець запіску да каштарысу і свае заўвагі перадаць на зацьвярджэньне бліжайшага пленуму.

6) Прапанаваць праўленьню Белкахотсаюзу ў самы кароткі тэрмін перагледзець дэбіторскую запазычанасьць, шляхам спагнаньня завінавачанасьці, калі гэта патрэбна праз судовыя органы. У выпадку немагчымасьці ліквідацыі сум дэбіторскай завінавачанасьці як безнадзейных, скласьці сьпіс гэтых сум і сьпісаць на страты.

# ЧАРГОВЫЯ ЗАДАЧЫ

Галоўная задача кожнай трусаводнай гаспадаркі ў сучасны момант—гэта выкананьне вытворчага пляну ў галіне пасьпяховай гадоўлі маладняка.

Плянам прадугледжана застаўляць ад кожнага акоту пад самкай па 5 штук маладняка, з ліку якіх 20 проц. пакідаць як магчымы адход. Пільным доглядам за маладняком, добрым кормам і паеньнем з ужываньнем для маладняка малака, магчыма і трэба зьнішчыць гэты адыход і выгадаваць маладняк на ўсе 100 проц.

Гэта першы сродак для выкананьня вытворчага пляну.

Калі добра даглядаць маладняк, пачаць з 2-х тыднёвага тэрміну паіць яго малаком, то магчыма ня трымаць яго пад маткай да $1^1/_2$ месяцаў (як прадугледжана плянам) і аднімаць праз адзін месяц, а самку зараз злучаць нанова. Гэта мерапрыемства дасьць магчымасьць атрымаць да наступленьня халадоў патрэбныя тры акоты. Гэта другі сродак выкананьня вытворчага пляну. Вось на гэтыя мерапрыемствы неабходна зьвярнуць пільную ўвагу ўсім трусаводным гаспадаркам і абавязкова правесьці іх у жыцьцё. Бо зараз выкананьне вытворчага пляну трусагадоўлі і задачы даць магчыма больш маладняка—гэта грамадзянскі абавязак кожнай трусагадоўчай гаспадаркі перад дзяржавай.

Кожная гаспадарка мае свой плян, якім прадугледжана колькасьць матак грунтоўнага стада на 1-I—1933 году. Сучасны момант трэба скарыстаць для таго, каб своечасова падрыхтавацца да прыёму і забясьпечаньня ўсім неабходным колькасьці грунтоўнага стада данай гаспадаркі. Гэта значыць—падрыхтаваць неабходныя памяшканьні, клеткі, паклапаціцца аб нарыхтоўцы патрэбнай колькасьці кармоў на 1932-1933 год.

За час акотаў трэба прыглядацца да кожнай самкі: ці добра яна робіць гняздо, ці добра даглядае, адносіцца да сваіх трусянят, ці дастаткова ў яе малака, ці ня зьнішчае яна свой маладняк і г. д.

Гэта трэба для таго, каб пры камплектаваньні ўвосень стада заставіць толькі добрых матак, адборных самак. За маладняком трэба таксама пачынаць наглядаць з 3—4 месячнага ўзросту, каб выбраць добрых па стандарту і не бракаваных самак, якія своечасова пойдуць на ўкамплектаваньне ўласнага стада трусятніку.

Калі ў гэтым годзе мы мелі недастатковы склад уласнага стада, мелі сярод самак і дэфэктных непародных матак, то ў далейшым мы маем усе магчымасьці і павінны ўкамплектаваць грунтоўнае стада, выключна добраякасным матар'ялам.

Б. С.

# ПРА БЕЛПУШНІНУ І ЯЕ ТРУСОЎ

Белпушніна адрасуе „тэрміновы“ канвэрт, кладзе ў яго такую-ж тэрміновую паперку і накіроўвае гэта ў ліпеньскі загатоўчы пункт.

Разарваўшы канвэрт, загадчык пункту прачытаў: „Сьпешным парадкам вышліце сьпісы інвэнтару вашага пункту“.

Падумаўшы крыху, што інвэнтар загатоўчага пункту складаецца з аднэй толькі настольнай вагі, загадчык з высылкай сьпісаў інвэнтару ня надта сьпяшаўся.

Праз чатыры дні загадчык пункту атрымаў ад Белпушніны яшчэ адзін ліст аб высылцы сьпісаў інвэнтару, але ўжо „вельмі тэрміновы“. Загадчык, усьміхнуўшыся ў вус, кінуў у столік прачытаны „вельмі тэрміновы“ ліст і праз зубы прабурчэў:

— І прысьпічыла-ж там вас з гэтым інвэнтаром?..

І сьпісаў зноў не паслаў. Белпушніна,—тэлеграму. Адказу няма. Белпушніна—тэрміновую тэлеграму.

Так Белпушніна, мабыць і сёньня сыпле па тэлеграфу дэпэшы ў лепельскі загатпункт аб высылцы сьпісаў інвэнтару, не падумаўшы аб тым, што там толькі адна-адзіная настольная вага з камплектам гір.

Але ці ў гэтым уся віна Белпушніны?

Маючы справу з трусамі, Белпушніна набралася ад іх нейкай трусасьці і ўвесь час ніто трусіць, ніто... ня ведала што?.. цяжка разабраць!

Той самы загадчык лепельскага загатпункту, пачынаючы з 1-га жніўня, пераслаў Белпушніне, да 15 жніўня, чатыры пасылкі па 20 штук кролікаў у кожнай.

Наіўны чытач зараз запытае?

— А ці дайшлі гэтыя трусы жывымі да адрасата?

Вось, даражэнькі, у гэтым і ўся загадка. Ні я, ні вы, ні сам загадчык лепельскага пункту аб гэтым нічога не ведае.

Апошні, нават і вельмі хацеў даведацца пра лёс гэтых кволых стварэньняў, але... ні да адказаў Белпушніне на розныя глупства? Даволі, што некалькі сьпешных запросаў на сьпісы інвэнтару паслалі. А пацьвярджаць атрыманьне розных там, жывых, ці мёртвых трусоў — справа не Белпушніны.

„*Лишь были-б желуди*“, — як дзядзька Крылоў казаў.

Анікей Дрыль

# Трусаводная гаспадарка Дудзінка

На правым беразе Бярэзіны знаходзіцца саўгас Дудзінка. З усіх бакоў абкружаны ён густым, высокім сасоньнікам. Толькі два гады таму назад гэты хутар пакінуў былы „гаспадар“—кулак Дакука. Тады зямлю, якая лічылася за хутарам, засяваў суседні калгас і вакольныя сяляне—аднаасобнікі, а памяшканьні пуставалі, гнілі.

Так было да 1 сакавіка 1931 году. Але на хутары пачуўся грукат тапароў і скігатаньне піл. Будаваўся саўгас. Шмат працы было над гэтым хутарам, пакуль прыстасавалі яго пад трусаводную гаспадарку.

За кароткі тэрмін былі падрыхтаваны вальеры і ўсё неабходнае.

Урэшце ўсё было гатова, а трусоў няма.

— Як-жа так? Калі будуць трусы?

— Нічога. Хутка будуць! Павінны быць!—адказвала дырэкцыя.

У сярэдзіне мая 1931 году т. Пахомаў—дырэктар гаспадаркі, вакольным шляхам дастаў 17 трусаматак і 13 самцоў.

Зажыла гаспадарка! Зьбіраліся вакольныя сяляне паглядзець на свойскага зайчыка. Насілі на руках трусоў.

Але над саўгасам хутка, нібы дажджавая хмара, навісла пагроза. Трусы пачалі дохнуць. Гэта было вынікам адсутнасьці ўсякага навыку і практыкі ў працы тых, хто даглядаў за трусамі. Трусаводаспэцыяліста ня было. Корм даваўся бяз нормы, калі папала. Клеткі ня чысьціліся. І ўрэшце рабочая грамадзкасьць узялася за гаспадарку. Высунулі лёзун: „За стопроцантнае выхаваньне маладняку. Ніводнага труса не павінна быць не дагледжаным!“

Гэтыя лёзунгі сталі дэвізам у практыцы пэрсаналу гаспадаркі.

Вынікі хутка сказаліся. Трыццаць трусоў, якія былі ў гаспадарцы, паслужылі пачаткам для яго разьвіцьця.

Дасягнуць гэтага было ня лёгка. Рабочыя дзяжурылі каля трусоў удзень і ўначы. З дапамогаю вэтурача быў выпрацаван рацыён кармленьня трусоў. Справа пачала наладжвацца. Гэта забясьпечыла размнажэньне трусоў. Ужо да восені 1931 г. у клетках саўгасу мелася 90 штук маладняку. Але справа ня толькі ў тым, што гаспадарка мела 90 штук трусоў. Справа ў тым, што гэтае дасягненьне ўпэўніла рабочых у сваёй перамозе, упэўніла ўдарнікаў саўгасу ў магчымасьці займацца трусагадоўляй, разьвіваць гэтую справу.

У верасьні месяцы ў саўгас быў дадаткова завезены маладняк для папаўненьня матачнага стада. 500 матак і 100 самцоў былі прывезены з Магілеўскага саўгасу Саюзпушніны, а частка закуплена ў Сіроцінскім раёне. З гэтым стадам саўгас Дудзінка сустрэў 1932 г. Прыбыў на гаспадарку трусаводкіраўнік гаспадаркай тав. Алкіна. Яе малады энтузіязм і жаданьнеператварыць у жыцьцё веды, якія яна атрымала на курсах, пасадзейнічалі стварэньню такой моцнай гаспадаркі.

Невялічкая, заўсёды з чырвоным, напружаным тварам з раньня і да позьняй пары знаходзілася каля трусоў. На працу ня выходзіць работніца, яна яе замяняе. Яна ўся захапілася сваёй справай, з усёй шчырасьцю аддала свой час гэтай справе. У гаспадарцы ўстанавіўся парадак. Ніхто ня мае права заходзіць у вальеры, датыкацца да трусоў рукамі, каб не занесьці эпідэміі, чыста і акуратна пачалі ўтвараць за кожным асобным выпадкам дэзынфэкцыю.

У гаспадарцы стала чыста. Клеткі чыстыя, бо малейшы бруд у клетках садзейнічае пашырэньню эпідэміі. Асабліва вылучалася на рабоце таксама работніца Валчаніна. Зараз на вучастку Валчанінай самы нізкі процант падзяжу.

Асноўная група рабочых-ударнікаў гаспадаркі па бальшавіцку змагаюцца з падзяжом трусоў. На гэтым фронце гаспадарка ўжо дабілася посьпехаў. Падзеж даведзен нават ніжэй нармальнага проценту (?). Аднак на гэтым рабочы калектыў спыняцца ня хоча. Яшчэ і зараз пяць трусоў штодзенна падае. Рабочыя павінны дабіцца поўнага зьнішчэньня падзяжу. А гэта можна зрабіць толькі пры ўмове суровага прытрымліваньня рацыёну, добрага абслугоўваньня трусоў, захаваньня маладняку. Яшчэ бываюць выпадкі, калі трусіхі загрызаюць сваіх дзяцей. Неабходна і гэта ўрэгуляваць. Неабходна палепшыць догляд за котнымі маткамі.

Акрамя разьвядзеньня трусоў ў клетках, саўгас праводзіць вялікую навукова-дасьледчую працу па ўвядзеньні так званай „гарэннай“ сыстэмы разьвядзеньня трусоў.

У гарэнах саўгасу, якія займаюць звыш 7 га лесу, знаходзіцца каля 1.000 галоў трусоў. Трусы-маткі рыюць сабе перад акотам норы ў якіх і хаваюць сваіх дзяцей. Норы старанна маскіруюцца дзя таго, каб чужая самка не магла трапіць у іх. Гаспадарка вядзе дакладны вучот нор. Яны рэгіструюцца і адмячаюцца спэцыяльнымі дошчачкамі з паказаньнем часу, калі ўтворана і выяўлена нора.

Пры гарэннай сыстэме ніяк нельга ўстанавіць колькасьці трусоў.

І на справе гаспадарка ня ведае ліку іх у гарэнах.

Тым ня менш, ня гледзячы на гэтыя недахопы, ужо зараз можна сказаць, што гэта сыстэма мае дадатныя бакі. Па-першае, яна дае магчымасьць шчыльней і таньней выкарыстаць для корму ўсякія расьліны (траву, галінкі дрэў і інш.), чаго нельга зрабіць пры клетачнай сыстэме. Акрамя гэтага трусы на волі становяцца больш жыцьцяздольнымі: вясёлымі, бадзёрамі, часьцей і лепш плодзяцца. Слабымі бакамі гэтай сыстэмы зьяўляецца тое, што трусы не забясьпечаны ад нападу драпежнікаў (цаплі, каршуны, ласкі).

Толькі за адзін тыдзень—апавядае т. Пахомаў—каршуны задралі 4-х трусоў (?).—Проста адбою ад іх няма. І стрэльба не дапамагае.

Аб метазгоднасьці гарэннай сыстэмы можна будзе судзіць восеньню, калі саўгас зробіць канчатковы падлік трусоў і прааналізуе вынікі гарэннай сыстэмы. Гэта будзе мець вялікае значэньне ня толькі для саўгасу Дудзінка, але і для іншых трусаводчых гаспадарак Беларусі, якія на аснове вопыту гарэннага разьвядзеньня трусоў змогуць палепшыць сваю гаспадарку.

Акрамя гарэннай сыстэмы саўгас арганізаваў 3 выгулы для маладняку. Выгулы—гэта абгароджа-

нне мясца, дзе маладняк, дасягнуўшы адпаведнага ўзросту падкармліваецца і расьце. У выгулы сыстэматычна падсаджваецца маладняк, які ўвесь час знаходзіцца пад наглядам.

За сакавік месяц 1932 г. стада саўгасу даведзена да 700 галоў матак і 1 тысячу 100 галоў маладняку.

Ёсьць з іх і пародныя „венскія“ трусы, якія зьяўляюцца найбольш прыгоднымі для разьвядзеньня ва ўмовах БССР. Ёсьць і мэтысы, якія натуральным падборам павінны даць племянны матар'ял. Каштоўнасьць саўгаснага стада зараз складае па прыблізных падліках каля 25.000 руб. На самай справе яна перавышае гэтую суму. Адна гэта лічба ўжо гаворыць сама за сябе. Узьняты на амаль пустым месцы саўгас, даў за паўтары гады стада каштоўнасьцю на такую суму.

У саўгасе зараз працуе разам 30 рабочых. Нельга не адзначыць дрэннага культурна-бытавога абслугоўваньня рабочых. Да апошняга часу ў саўгасе не арганізавана нават сталоўка. Рабочыя вымушаны хадзіць за некалькі кілёмэтраў дамоў абедаць.

Адсутнасьць сталоўкі прыводзіць да цякучасьці рабсілы, што вельмі і балюча адбіваецца на працы саўгасу.

ЦРК, перад якім неаднаразова ставілася гэта пытаньне, увесь час яго „вырашае“ і ніяк ня можа вырашыць. Сталоўка пры саўгасе павінна быць арганізавана зараз-жа. Дрэнна абстаіць справа з кармамі. Не хапае аўса, круп. Гэта вельмі балюча адбіваецца на разьвіцьці і ўтрыманьні трусоў *).

Аднак, гэтыя цяжкасьці не палохаюць рабочых саўгасу і яго дырэкцыю. Намечаныя пляны давядзеньня стада маладняку да 7-мі тысяч галоў саўгас абвязаўся з гонарам выканаць. Рабочыя саўгасу спаборнічаюць з рабочымі магілеўскага саўгасу Саюзпушніна, на лепшую пастаноўку справы трусагадоўлі.

На нарадзе, скліканай рэдакцыяй „Бальшавік Барысаўшчыны“ дырэктар саўгасу „Дудзінка“ т. Пахомаў ад імя абслугоўваючага пэрсаналу ўзяў абавязак падрыхтаваць кадры для абслугоўваньня трусагадоўчых гаспадарак пры ЗРК і ЦРК Барысаву.

Саўгас абавязаўся таксама дапамагчы ЗРК прадпрыемстваў Барысаву і БЦРК у набыцьці трусоў, кансультацыі і іншых пытаньнях наладжваньня трусагадоўчых гаспадарак.

Саўгас расьце з кожным днём! Растуць рады клетак на тэрыторыі саўгасу! У гарэны і выгулы штодзенна падсаджваюцца ўсё новыя і новыя трусы!

**Л. Савельзон.**

---

*) Саўгасу неабходна паклапаціцца своечасова ў будучым аб засеве адпаведнай плошчы зямлі кармамі для трусоў.

Рэд.

# Рыхтуйце корм для трусоў

Кармовая база—грунт для разьвіцьця жывёлагадоўлі ў тым ліку і трусагадоўлі. Трус зьяўляецца аднэй з нятрэбавацельных жывёлін да корму, ён зьядае такія расьлінныя кармы, якія другімі жывёлінамі не паядаюцца, як напрыклад, палын і іншыя сьмяцьцёвыя расьліны. Вядома, што ўсякі грубы корм з ахвотай паядаецца жывёлінай у тым ліку і трусом, калі гэты корм—сена—своечасова нарыхтаван, гэта значыць нарыхтаваць неабходна яго ў час красаваньня.

Што-ж можна нарыхтаваць для труса ў гэты час? Перш за ўсё гэта нарыхтоўка ветачнага корму венікаў з драўнянага гальля, а гальлё венікі можна для труса рыхтаваць з любога дрэва, за выключэньнем вішэньніку і сьліўніку—так званых костачкавых дрэў.

Любімымі галінамі для труса зьяўляюцца галіны лазы і вярбы, якія трус паядае з большай ахвотай. Але ён не ганьбуе і іншымі, як напрыклад, клён, бяроза, альха. Венікі дуба таксама вельмі пажадана мець у запасе, але дубовымі венікамі карміць доўга ня можна, бо яны маюць у сваім складзе так званы танін, які зьяўляецца вяжучым сродкам, што можа выклікаць запоры ў трусоў. Дубовыя венікі неабходна мець у запасе і ў выпадку паяўленьня паносаў у трусоў даваць ім гэтыя галіны. Ветачны корм рыхтуецца для трусоў наступным чынам: маладыя галінкі лазы альбо іншых дрэў рэжуцца, вяжуцца у у венікі накшталт тых, якія рыхтуюць для лазьні.

Сушыць ветачнае сена патрэбна ў цяні, лепш усяго гэта падвешваць венікі пад стрэхамі павецяй або іншых пабудоў з такім разьлікам, каб скразьнякі, добра прабіралі гэтыя венікі.

Акрамя ветачнага корму таксама для трусоў неабходна нарыхтаваць усякіх сьмяцьцёвых траў, як палын і іншыя, якія з ахвотай паядаюцца трусамі, адначасова зьяўляюцца дэзынфэкуючымі сродкамі для труса.

Нарыхтоўку, як сарнякоў, так і ветачнага корму могуць рабіць падросткі, якіх неабходна скарыстаць для гэтай працы.

Да нарыхтоўкі ветачнага сена неабходна прыступіць зараз-жа, не прапусьціўшы тэрміну красаваньня.

**Дл. Грэзо.**

# Калі-ж абудзіцца Пухавіцкае таварыства?

Не зважаючы на не аднаразовае зьмяшчэньне ў „Паляўнічы Беларусі" артыкулаў з крытыкай недахопаў, што наглядаліся ў рабоце Пухавіцкага т-ва паляўнічых—апошняе не зрабіла амаль ніякага зруху наперад і да гэтага часу. Больш таго, не палепшылі справы ў гэтым напрамку і цэлы рад адміністрацыйных ды арганізацыйных захадаў і Белкахотсаюзу (роспуск былога праўленьня т-ва і інш.). Бо абсьледваньне работы таварыства і на сёнешні дзень, паказвае ўдубальт адмоўныя вынікі. Варта спыніцца на гэтых выніках.

У парадку папярэдняй даведкі трэба адзначыць, што эканамічнае становішча Пухавіцкага раёну па багацьці паляўнічай фауны зьяўляецца адным з лепшых па БССР, а таксама па сваёй тэрытарыяльнасьці займае 28 сельскіх саветаў. Колькасьць паляўнічых у раёне 800 чалавек. Маецца арганізаваная сыстэма, 30 паляўнічых ячэек. Здавалася-б, што пры гэтых умовах становішча работы раённага т-ва паляўнічых павінна было-б быць найлепшым і цалкам адпавядаючым задачам выкананьня ўсіх плянавых заданьняў. Аднак, уся праца раённага т-ва аддана на самацёк і таму, ва ўсіх галінах яно мае наступныя вынікі:

Пляны пушна-мехсыравіны пачынаючы з 1931 г. сыстэматычна ня выконваюцца, ганебна зрываюцца. Так, напрыклад, за 1931 год заданьне па пушніне ў 5.800 руб. выканана на 2.856 р. 02 к., або на 49,2 проц., заданьне па мехсыравіне ў 300 руб. выканана на 382 або на 127,3 проц.

## За 1932 год

### I квартал

Заданьне па пушніне ў 800 руб. выканана на 726 руб. 98 к., або на 90,8 проц.; заданьне па мехсыравіне ў 550 р. выканана на 120 р, або на 21,8 проц.

### II квартал.

Заданьне па пушніне і крату у 1.750 руб. да 9-VII—32 г. выканана на 490 руб, або на 28 проц.; заданьне па мехсыравіне у 270 руб. выканана на 158 руб., або на 58,5 проц.

Кантрактацыя пушна-мехсыравіны прайшла кепска. Усяго па раёне закантрактавана пушмехсыравіны толькі на суму 4682 руб. Але і гэта ў асноўным праведзена фармальна. Бо ўмовы заключаліся бяз удзелу паляўнічай масы непасрэдна з старшынямі паляўнічых ячэек. Маючыйся прарыў па загатоўках пушна-мехсыравіны у Пухавіцкім раённым т-ве, паляўнічых тлумачыцца наступным:

Амаль зусім адсутнічае арганізацыйная праца сярод паляўнічых ячэек. З маючыхся пратаколаў паседжаньняў праўленьня райтаварыства і паляўнічых ячэек відаць, што асноўнае пытаньне—загатоўка пушна-мехсыравіны—ставілася на абвестку дню толькі на 2-х сходах паляўнічых ячэек.

Загатоўка пушна-мехсыравіны праводзіцца толькі праз адну краму, якая знаходзіцца ў цэнтры раёну і праз два падсобных пункта, адзін з якіх знаходзіцца



Па рэках і азёрах Цэнтр. Чарнозем. Абласьці. Арцель рыбакоў на лоўлі рыбы.

ў м. Шацк, другі ў м. Сьмілавічы. У астатніх ячэйках (а іх паўтараем 30) зборшчыкі пушнамехсыравіны адсутнічаюць.

Пры разгортваньні пушна-мехавых загатовак і зараз адсутнічае сувязь з райкомам КСМ, райана, сельсаветамі і іншымі арганізацыямі па пытаньнях пушна-мехавых загатовак.

У раённым друку пытаньне пушна-мехавых загатовак і ўдзелу ў гэтай справе паляўнічай і наогул савецкай грамадзкасьці не асьвятлялася.

Пытаньню разгортваньня сацспаборніцтва і ўдарніцтва паміж паляўнічымі ячэйкамі і асобнымі паляўнічымі, а таксама стымуліраваньню работы на асобных старшынь ячэек і паляўнічых шляхам прэміраваньня і зьмяшчэньня фото-здымкаў у часопісі „Паляўнічы Беларусі“, ня было ўдзелена адпаведнай увагі.

Амаль зусім адсутнічае сталы апарат райтаварыства як-та: старшыня і рахункавод. Маючыйся крамнік да сваёй працы адносіўся абыякава, у выніку чаго былі асобныя выпадкі, калі паляўнічыя, недачакаўшыся адкрыцьця крамы, уяжджалі дахаты з пушна-мехсыравінай.

Зусім адсутнічае шрот і порах, а таксама тавары стымуляваньня маюцца толькі ў невялікай колькасьці, дзякуючы таму, што, у сувязі з адсутнасьцю вартаўніка, была абкрадзена крама на суму каля 700 руб.—выключна прамтавараў.

### Трусагадоўля

Пухавіцкае раённае т-ва паляўнічых мае зусім добрае трусаводнае стада, якое складаецца па прыблізных падліках з 260 шт. старых самак і 40 самцоў, усяго з 300 шт. За некалькі дзён да майго наведваньня гаспадаркі з гэтага стада ўкрадзена 12 шт. самых лепшых з самак, 1 самец, а яшчэ раней украдзена 10 шт. трусоў. Сталы падлік маладняку адсутнічае, а па слоўных прыблізных даных рабочага Ліхадзіеўскага маладых трусоў ёсьць усяго толькі штук 300 у той час, калі-б гэта гаспадарка павінна была мець ня менш 2000 шт.

Тлумачыцца ўсё гэта тым, што адсутнічае кіраўнік гаспадаркі, няма вартаўніка, на 40 проц. стада не забясьпечана клеткамі, у сувязі з чым трусы ў хляве адгароджаны групамі, дрэнна даглядаюцца, маюць магчымасьць падкапвацца і вылазіць на неагароджаны двор. Клеткі, што маюцца для трусоў, ў большасьці сваёй неадпавядаюць свайму прызначэньню. Таму маладняк пасьля акоту адразу гіне.

Адсутнічае ўсякі вучот. Праўленьне гэтай гаспадаркай зусім ня кіруе. Сенакос, што ёсьць пры трусаводнай гаспадарцы, знаходзіцца пад пагрозай застацца ня скончаным, а засеянныя буракі зусім зараслі травою.

Такім чынам, пералічаныя факты даюць і зараз усе падставы заключыць, што Пухавіцкае райтаварыства паляўнічых становіць сабою адно з таварыстваў, на якое ня дзейнічаюць ні Белкахотсаюз, ні друк, ні грамадзкая думка. Выходзячы-ж з гэтага мы яшчэ раз ставім пытаньне пра ўмяшацельства ў справу адпаведных сьледчых і судовых органаў (РСІ, пракуратура і інш.), бо наяўная безгаспадарчасьць, што ёсьць зараз у таварыстве, на далей ня можа быць цярпімай.

**А. Вільдфлуш.**

## Кіраўніцтва, якое абанкруцілася

Чашніцкае таварыства паляўнічых бязьдзейнічае. Паляўнічай гаспадаркай ніхто ня цікавіцца, паляўнічыя ўгодзьдзі ад драпежнікаў не ахоўваюцца. Ніякай растлумачальнай працы не вядзецца. Ячэйкі паляўнічых лічацца толькі на паперы і то не ва ўсіх сельсаветах (у 3-х сельсаветах і да гэтага часу няма ячэек нават на паперы). Няма ячэйкі і ў саміх Чашніках.

Трусаводная гаспадарка ў м. Чашніках мае 5 трусоў-матак і 15 самцоў, па абслугоўваньні якіх заняты 2 асобы—загадчык з акладам у 100 руб., рабочы—75 руб. на месяц. І тым ня менш трусаводная гаспадарка не абсеменена.

Старшыня т-ва паляўнічых т. **Маскін** гаворыць, што для працы ў т-ве яму няма часу. А між тым **Маскін** працуе ў якасьці старшыні з студзеня месяца 1931 г. да гэтага часу і нічога не зрабіў.

За паўтара гады працы ня было праведзена ніводнага сходу па ячэйках.

За ўвесь час працы (1931—32 г.) ня было пастаўлена ніводнай справаздачы аб працы ні ў РК і РВК. А тым часам зусім відавочна, што з кіраўніцтвам паляўнічай гаспадаркаю не спраўляецца і гэтай справай ня цікавіцца.

Мы патрабуем безадкладнага прызначэньня другога таварыша ў якасьці старшыні т-ва і наогул абнаўленьня ўсяго складу праўленьня, бо існуючае праўленьне зараз цалкам абанкруцілася.

**В—ль.**

# Аб аднэй няўдалай аблаве і злых... паляўнічых

**(Плешчаніцы, Лагойск)**

Усім вядома, якія вялікія страты прыносяць нашай гаспадарцы ваўкі. Але нажаль, мы яшчэ ня ўмеем іх зьнішчаць і заўсёды робім шмат памылак, якія зрываюць работу і шкодзяць гэтай справе. Яскравы прыклад такой дрэннай работы адбыўся 31 ліпеня 1932 г. Зарачанская ячэйка паляўнічых, Плешчаніцкага раёну рабіла аблаву. Гняздо ваўкоў было знойдзена ў канцы чэрвеня, пры чым аднаго ваўчаня хлапец злавіў.

Ня гледзячы на тое, што вывадак быў у добрым месцы для ўтварэньня аблавы, з іх забіта было толькі тры маладых.

Ваўкі былі на мяжы Плешчаніцкага і Лагойскага раёнаў. Арганізатары аблавы зьвярнуліся да суседніх саветаў Лагойскага раёну, каб апошнія выслалі людзей. Але гэтага ня было зроблена. Нават вёскі Пуцілава, Гілеўшчына, Букаўшчына нічога ня ведалі пра аблаву і ніхто адтуль ня прышоў, ня гледзячы на тое, што аблава рабілася пад самым іх носам.

Такім чынам не хапіла людзей на загон. Пры абкладзе на самых воўчых лаговішчах прышлося заламаць загон і маладыя ваўчкі засталіся ззаду стральцоў. Але калі паднялі загоншчыкі крык, дык яны самы пабеглі на крык. Тры маладых прарваліся праз загон паляўнічых у сярэдзіну воступу. От тут іх і забілі. Але пры гэтым трапілася бачыць дзіўнае і дзікае, у гэты час, зьявішча.

Адно ваўчанё павалілася ад стрэлу паляўнічага Ліхтаровіча. Калі яго сусед запытаў—„Паваліўся?“,—дык ён на гэта адказваў—„Ляжыць“.

Гэта пачуў п'яны Алесь **Штанюк** з в. Ляды, Зарэччанскага савету, які знаходзіўся на трэцім месцы ад Ліхтаровіча. Ён падбег да яго, пачаў лаяцца і адбіраць ваўчка, кажучы:—„Я два разы стрэліў па ім“. Пачалі тузацца. На крык прыбеглі суседнія стральцы, кінуўшы свае месцы. Так нечакана аблава і скончылася. Убачыўшы тузаніну і лаянку за ваўчонка лясьнічы Плешчаніцкага раёну пачаў стыдзіць Штанюка.

Калі адагналі Штанюка ад Ліхтаровіча, дык нечакана раздаліся два стрэлы ад пачатку загона. Высьветлілася, што стары воўк прайшоў міма загоншчыкаў і ўжо вышаў з загону, як яго згледзіў стары паляўнічы **А. Строганаў** і стрэліў па ім дранкулькамі, а за ім выпаліў хлапец шротам, але воўк вышаў з загону.

Пастухі бачылі, як у час аблавы адзін малады бегаў па полі.

Ваўкоў забілі меншую частку.

Паказаўшы арганізацыйныя недахопы гэтай аблавы, я хачу яшчэ спыніцца на самым выкананьні аблаў. Тут ёсьць дзьве сыстэмы. Адна такая: становяцца на месцах як стральцы, так і паражняк, зрабіўшы адзін ланцуг, а ў сярэдзіну пускаюць некалькі чалавек са стрэльбамі сабакамі, якія ганяюць ваўкоў, пакуль іх не параб'юць. Гэта Лагойская сыстэма. Другая сыстэма Плешчаніцкая. Тут робіцца спачатку таксама ланцуг, але паражняк з крыкам лезе на стральцоў і выганяе ваўкоў. Пры гэтай сыстэме бывае часьцей, што паражняк ідзе без парадку, не ланцугом, а зьбіваецца кучамі і паміж куч ваўкі ўцякаюць назад, асабліва старыя. Па мойму трэба прытрымлівацца Лагойскай сыстэмы. Пры ёй можна перабіць усіх ваўкоў, як старых, так і маладых.

Да гэтага лічу патрэбным зрабіць такую прапанову.

Калі ў якім савеце вывядуцца ваўкі, а ячэйка ня зробіць аблавы, то яе трэба ганьбаваць, а за добрыя аблавы даваць прэміі, асабліва абкладчыкам, якія павінны добра прасачыць ваўкоў.

Я. С.

# Ловяць зайцаў і без пары падушылі качак

**(Лагойскі раён, Калачэўскі сельсавет)**

Вясной, калі падбіралі лясныя дзялінкі, жонка лясьніка Рачыцкага злавіла двух зайцаў і прынесла іх дадому, але ад недагляду яны здохлі.

Цяпер, 25 ліпеня, жнучы жыта ў калгасе „Пралетарская культура“, гр. гр. Рачыцкая і Садоўская злавілі двух зайцаў і прывязалі іх за заднія ногі да кустоў. Калі ўбачыў гэта сябра саюзу паляўнічых Стась Ліхтаровіч, і стаў угаварваць пусьціць зайцоў, Рачыцкая пачала лаяцца, кажучы, што яна сябра сельсавету і плюе на законы паляўнічых. А калі Ліхтаровіч запытаўся ў Рачыцкай, чым яна кіруецца дык яна адказала, што ў яе свой закон.

Паляваньне на качак пачалося з 17 ліпеня па рэчках і вазёрах Калачэўскага сельсавету. Да пачатку паляваньня шмат качак было перабіта нялеткамі. 24 ліпеня ячэйка сабрала паляўнічых на калектыўнае паляваньне, але качак ужо ня было. Лепшыя паляўнічыя, чакаўшыя тэрміну, былі абураны такім зьявішчам. Раённае праўленьне супроць такога парушэньня парадку ніякіх захадаў ня прымае.

Трэба, каб адпаведныя органы на гэта зьвярнулі ўвагу і прыцягнулі вінаватых да адказнасьці.

Я. Сапрык.



[illegible] хатка ў Белдзяр. запаведн.куі

## ДРЭННАЯ РАБОТА

**(Лагойскі раён)**

Пасьля доўгай сьпячкі наша раённае праўленьне назначыла на 3 ліпеня агульны сход паляўнічых, аб чым надрукавала ў „Чырвонай Лагойшчыне" аб'яву, што „а 10 гадзіне раніцы ў м-ку Лагойску зьлёт усіх паляўнічых для вырашэньня бягучых задач саюзу. За яўку паляўнічых адказназнасьць ускладаецца на старшынь паляўнічых ячэек, праўленьне". Акрамя гэтай аб'явы на імя кожнай ячэйкі былі высланы паперкі, у якіх гаварылася, што сход будзе праводзіцца ў доме сацкультуры м. Лагойску.

Прачытаўшы, што за яўку паляўнічых адказнасьць ускладаецца на старшынь паляўнічых ячэек, старшыня Калачоўскай ячэйкі, пастараўся пераказаць усім паляўнічым зьявіцца ў Лагойск. Але дарэмна— сход не адбыўся.

Аднак справа не пра гэта, а пра паштовыя абавязкі. Па службе паштовага агента я, маючы гадзіну часу, пашоў на пошту, каб здаць падпіску на газэты, але тут мяне грозна спаткаў загадчык аддзелу друку Сяліцкі. Ен даў загад, каб грошы здаваліся не раней 15 чысла. Калі я палажыў грошы і карткі яму на стол, дык ён расьпячатаў і стаў рабіць мне натацыю. **Але я маўчаў, як вінаваты, што грошы прывёз раней на 12 дзён, думаючы, што ён адпусьціць і грошы возьме.** Але ў Сяліцкага злосьць не адыходзіла: ён то садзіўся, то ўставаў і бегаў, то перакладаў з аднаго боку на другі бок стала паперкі, шчоты, перасоўваў чарнільніцу, адным словам, паказваў від, што ў яго рукі заняты і ён ня мае фізычнай магчымасьці прыняць ад мяне грошы. Так ён мяне прамучыў тры гадзіны, а пасьля зусім зьбег. Я зьвярнуўся да загадчыка аддзелу сувязі Коўзана. Коўзан мяне накіраваў да Лапотка, а Лапотка да інструктара, які **павінен быў растлумачыць Сяліцкаму,** што грошы ад мяне ён павінен прыняць. Пакуль усіх іх я абышоў, і пакуль інструктар перашукаў усе пакоі, прайшло яшчэ дзьве гадзіны. А Сяліцкага нідзе не знайшлі.

Нарэшце інструктар адказаў мне: „Хаця гэта і не мая справа, але ў вас я грошы вазьму".

Час ужо зьнішчыць бюракратычныя адносіны да распаўсюджваньня друку.

**Я. С.**

## ХУЛІГАНСТВА ПАЛЯЎНІЧЫХ

**(Лагойскі раён)**

Паміж вёсак Рудня і Мачулішча ў лесе ёсьць возера. 17 ліпеня на ім паднялася страляніна. Паляўнічы в. Мачулішча Стась Ліхтаровіч пашоў туды паглядзець, што там робіцца. Калі ён падышоў да возера, то ўбачыў многа людзей са стрэльбамі і сабакамі.



Глушэц на таку.

Сярод іх быў яго сусед **Пётра Равяка** і з вёскі **Рацькавіч, Кузьма Добрагост і Мірон Сьлесарэвіч.**

Астатнія паляўнічыя былі Янушкаўскага сельсавету вёсак Якубавічы, Баравыя.

Калі Ліхтаровіч напомніў ім, што яны без пары пачынаюць паляваньне, дык паляўнічыя пачалі лаяцца, кажучы:

— Калі хочам, тады і палюем і што заб'ем, тое будзе наша, ніхто нам забараніць ня можа, нікога мы не баімся, бо мы і так ужо на два тыдні спазьніліся.

Ліхтаровіч сеў на беразе возера і глядзеў як гэтыя браканьеры душылі маленькіх, толькі пачынаючых лётаць качачак і клалі іх сабе ў торбы. Пабраўшы ўсіх, паляўнічыя пайшлі дамоў.

На другі дзень такая-ж страляніна раздавалася на Стайкаўскім возеры, Янушкаўскага сельсавету.

**Я. Сапрык.**

Рэдактар—рэдкалегія: **Волдынь, Вільдфлуш, Цэлеш і проф. Федзюшын.**

Адказны рэдактар: **А. Вільдфлуш.**

## Бальшавіцкай барацьбой за рэвалюцыйную законнасьць забясьпечым выкананьне ўрадавых пастаноў

# Пастановы ўраду аб паляваньні

10 мая г. г. выдана пастанова ЦВК і СНК РСФСР аб дапаўненьні арт. 86[1] Крымінальнага кодэксу РСФСР. Згодна гэтай пастановы арт. 86[1] Крым. код. у канцы яго дапоўнен наступнымі словамі: „І з канфіскацыяй прылад паляваньня ці бяз гэткай“.

З паказаным дапаўненьнем арт. 86[1] у сучасны момант чытаецца ў наступнай рэдакцыі:

„Утварэньне паляваньня ў забароненых месцах, у забароненыя тэрміны ці забароненымі спосабамі, ці прыладамі лову караюцца пазбаўленьнем волі ці прымусовымі работамі на тэрмін да 6-ці месяцаў ці штрафам да 300 руб. з абавязковай канфіскацыяй незаконна здабытага і з канфіскацыяй прылад паляваньня ці бяз гэткай“.

У сакавіку гэтага году Народны Камісарыят замежнага гандлю СССР загадам № 127 зацьвердзіў палажэньне аб камітэце па справах паляўнічай гаспадаркі:

„1. У мэтах палепшаньня кіраўніцтва паляўнічай гаспадаркай на тэрыторыі Саюзу ССР, усямернага ўмацаваньня і разьвіцьця абагуленых форм паляўнічага промыслу, побач з максымальным выкарыстаньнем усіх магчымасьцяй індывідуальнага паляўнічага промыслу, а таксама для ўзгадненьня дзейнасьці розных устаноў і арганізацый у галіне паляўнічай гаспадаркі пры Народным Камісарыяце замежнага гандлю Саюзу ССР ствараецца камітэт па справах паляўнічай гаспадаркі.

2. Камітэт па справах паляўнічай гаспадаркі:

а) разгледжвае выпрацаваныя ведамствамі і арганізацыямі Саюзу ССР і саюзных рэспублік пляны паляўнічага ўпарадкаваньня, разьвіцьця паляўнічай гаспадаркі (паляваньне, зьверагадоўля, дзічаразьвядзеньне і г. д.); капіталаўкладаньні ў асобныя галіны паляўнічай гаспадаркі, снабжэньня ахотбоепрыпасамі; пляны работ экспэдыцый навукова-дасьледчых устаноў, па вытворчасьці і арганізацыі абаронных мерапрыемстваў па барацьбе з драпежнікамі, пасэзоннага адстрэлу пушных зьвяроў і дзічы, па падрыхтоўцы кадраў для паляўнічай гаспадаркі, па арганізацыі навукова-дасьледчых, біялёгічных і інш. устаноў;

б) абгаварвае пэрспэктыўныя пляны разьвіцьця паляўнічай гаспадаркі і павялічэньня яе таварнасьці;

в) разглядае праекты інструкцыі і правіл па вядзеньні паляўнічай гаспадаркі, аб парадку прыпіскі асобных ахотугодзьдзяў па вытварэньні паляваньня, аб тэрмінах і спосабах апошняга, а таксама пералікаў зьвяроў і птах, паляваньне на якіх бязумоўна забараняецца;

г) абгаварвае праекты асноўных тыпаў прылад промыслу для масавай іх вытворчасьці, у тым ліку паляўнічай зброі, а таксама разглядае прапановы аб парадку снабжэньня паляўнічых і іх калектываў прыладамі промыслаў;

д) распрацоўвае пытаньні інтэнсыфікацыі промыслаў;

е) разглядае праграмы вучэбных устаноў па падрыхтоўцы паляўнічазнаўцаў і зьверабодаў па вольнаму зьвераводзтву; разглядае вынікі навукова-дасьледчых работ у галіне паляўнічай гаспадаркі і выкарыстаньня прадукцыі паляўнічага промыслу і прымае меры да практычнага іх выкарыстаньня;

ж) разглядае праекты мерапрыемстваў па павялічэньні экспартных рэсурсаў паляўнічай гаспадаркі;

з) разглядае пытаньні стандартаў і тэхнічных умоў для экспартных артыкулаў паляўнічай гаспадаркі;

і) удзельнічае ў распрацоўцы загатоўчых цэн на прадукцыю паляўнічага промыслу;

к) садзейнічае забясьпечаньню народнасьцяй Крайняй Поўначы адводам фондаў паляўнічых угодзьдзяў;

л) абгаварвае прапановы аб парадку выдачы дазволу на права навуковага паляваньня;

м) разглядае тыповыя праграмы па першапачатковаму і спэцыяльнаму паляўнічаму ўпарадкаваньню, а таксама тыповыя дагаворы на эксплёатацыю асобных паляўнічых угодзьдзяў;

н) распрацоўвае мерапрыемства па барацьбе з драпежнікамі;

о) удзельнічае ў складаньні плянаў выданьня літаратуры па паляўнічай гаспадарцы і праграм гэтай літаратуры;

п) распрацоўвае мерапрыемствы па барацьбе за павышэньне якасьці прадукцыі паляўнічай гаспадаркі;

р) разглядае пытаньне аб парадку адказнасьці ведамств і арганізацый за вядзеньне паляўнічай гаспадаркі;

с) разглядае ўсе другія пытаньні, якія датычаць паляўнічай гаспадаркі.

3. Камітэт па справах паляўнічай гаспадаркі ствараецца ў ніжэйпаданым складзе:

Старшыня—намесьнік народнага камісара зьнешняга гандлю і па адным прадстаўніку НКЗГ, Наркамзему СССР, Наркамснабу СССР, ВСНГ СССР, Наркамфіну СССР, сталых прадстаўніцтваў саюзных рэспублік пры ўрадзе СССР, Наркамасьветы РСФСР, Камітэту Поўначы пры прэзыдыуме ЎсеЦВК, галоўнай управы міліцыі РСФСР, Саюзпушніны, Саюзлеспрому, Саюзахотцэнтра, Цэнтрасаюзу, Інстытуту пушной гаспадаркі пры сельскагаспадарчай акадэміі імя Леніна, Саюзптушкапрадукту, Саюзмяса, Калгасцэнтра, Аленеводства, акц. т-ва „Комсевпуть“.

4. Па прадстаўленьні камітэту па справах паляўнічай гаспадаркі з дазволу НКзамежнага гандлю ў склад камітэту могуць быць уключаны асобы, маючыя належныя навуковыя веды ці вялікія практычныя навуковыя веды, ці вялікі практычны вопыт у галіне паляўнічай гаспадаркі.

5. Пастановы камітэту прымаюцца большасьцю галасоў прысутных членаў камітэту.

6. Нязгодныя з пастановамі члены камітэту маюць права прадставіць свой пратэст у трохдзённы тэрмін Народнаму Камісару замежнага гандлю, рашэньне якога зьяўляецца канчатковым, за выключэньнем рашэньняў па пытаньнях, указаных у п. п. „а“, „г“ і „р“, нязгодныя з гэтымі рашэньнямі ведамства ўносяць свой пратэст у СНК СССР.

Рашэньні камітэту, патрабуючыя бюджэтных асыгнаваньняў, уносяцца на зацьверджаньне ўраду.

## ТАВАРЫШ, ТЫ ХОЧАШ ВЕДАЦЬ,

як трэба весьці на калектыўных пачатках паляўнічую гаспадарку? Як арганізаваць калектыўнае разьвядзеньне каштоўных пушных зьвяроў? Як арганізаваць трусятнік? Як выбраць і прыстраляць стрэльбу? Як выбраць сабаку для паляваньня? Якія спосабы паляваньня могуць даць лепшыя вынікі? Дзе жывуць розныя прамыслова-паляўнічыя зьверы і птушкі? Якія іх прывычкі? Якія неабходныя ўмовы, каб іх было больш у паляўнічых угодзьдзях? Чым вы можаце дапамагчы ў справе вывучэньня паляўнічай гаспадаркі? Чым дапамагчы сыстэме паляўнічай каапэрацыі ў хутчэйшай арганізацыі паляўнічай гаспадаркі? Як самому ўключыцца ў работу гэтай галіны?

**НА ЎСЕ ГЭТЫЯ І ДРУГІЯ, ЦІКАВЯЧЫЯ ВАС, ПЫТАНЬНІ ТЫ МОЖАШ АТРЫМАЦЬ ВЫЧАРПАЛЬНЫЯ АДКАЗЫ.**

## ВЫПІСВАЙ НА 1933 ГОД ЧАСОПІСЬ

# „ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ“

**Орган прамыслова-каапэрацыйнага саюзу паляўнічых „БЕЛКАХОТСАЮЗУ“.**

**САЮЗЫ, ТАВАРЫСТВЫ І ПАЛЯЎНІЧЫЯ ЯЧЭЙКІ**

**Вылучайце арганізатараў падпіскі на нашу часопісь.**

У часопісі шырока асьвятляюцца пытаньні паляўнічае каапэрацыі, будаўніцтва калектыўнай паляўнічай гаспадаркі, жыцьцё і норавы зьвяроў і птушак, пушная справа, паляўнічае права, спосабы паляваньня, сабакагадоўля, ружэйная тэхніка. Асобную ўвагу часопісь будзе аддаваць пытаньням будаўніцтва паляўнічай гаспадаркі, калектыўнай пушной зьверагадоўлі і трусагадоўлі, а таксама біолёгіі прамыслова-паляўнічых жывёл, бо веды не забясьпечваюць пасьняховасьць паляваньня і паскараюць тэмп сацыялістычнай рэканструкцыі паляўнічага промыслу ў рацыянальную паляўнічую гаспадарку.

**УМОВЫ ПАДПІСКІ:**

на 1 год . . 3 р.
на паўгода . . 1 р. 50 к.
на 3 мес. . . 1 р. —

На меншы тэрмін падпіска не прымаецца.

**У 1932 годзе ў часопісі адкрыецца адмысловы спэцыяльны аддзел, асьвятляючы пытаньні рыбаводства і рыбалоўства.**

**Падпіску і грошы накіроўваць: Менск, Кіраўніцтва сувязі, або ў бліжэйшае паштовае аддзяленьне.**

**Адрас рэдакцыі: Менск, Савецкая 68, выдавецтва „Калгасьнік Беларусі“.**

Заказ № 2129. 12.670 экз. Уп. Галоўлітбелу № А—3.

Друкарня імя Сталіна.